ЛІТАРАТУРА
І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

14 лютага 1997 г. № 7/3883 Кошт 3 000 руб.





# Шчыры, светлы, мужны...

## Сёння Міхасю Стральцову споўнілася б шэсцьдзесят

Вырай беларускіх паэтаў і празаікаў пачатку 60-х гадоў шчаслівы быў тым, што ў ім з першага прылёту быў Міхась Стральцоў, які меў прыроджаны абсалютны літаратурны густ. Сказаць пра яго — талент, будзе правільна, асоба — таксама. Але, бадай, слова "з'ява" трохі акрэсліць маштабы Міхася Стральцова...

Міхась Стральцоў даў інтэлектуальны пачатак сучаснай яму прозе, пачуццёвую глыбіню эсэістыцы, шырыню і гарызонтнасць крытыцы, акварэльнасць і адухоўленасць паэзіі ад класічнага радка да верлібра.

**Рыгор БАРАДУЛІН**

●

Стральцоў меў залішне многа свабоды ад жыцця. Жыццё не дазваляе, не даруе гэтага.

...Ён быў пісьменнікам — не болей. Але ж і не меней. Ён змог ім стаць — ён змог ім і застацца, ужо назаўсёды. І сказаць тое, што сказаў.

**Аляксандр СТАНЮТА**

●

...І хай не будзе банальнасцю сказаць, што сам ён быў СВЕТЛЫМ чалавекам, чорныя гады яго жыцця толькі адцянілі гэта. ...Не магу ўявіць яго пагардлівым, грубым, хітрым, двурушным. Канешне, у кожнага чалавека свае ўяўленні аб добрых людзях, але я перакананы, што ў стаўленні да Міхася Стральцова такія ўяўленні ў тых, хто ведаў яго, супадуць...

**Фёдар ЯФІМАЎ**

●

..Ён з ліку тых рэдкіх літаратараў, якія маюць духоўны ўзрост, а гэта, як вядома, нешта зусім іншае, чым проста гады, што складаюцца ў звыклае жыццё; гэта талент той кранальнай памяркоўнасці, якая дае магчымасць паверыць у неверагоднае — ну хоць бы ў тое, што сярод людскасці... можа існаваць толькі адзін кепскі чалавек.

Ён жыў з гэтай верай, жыў не ідэямі — пачуццямі, дзеля якіх цярпліва чакаў свайго слова. Менавіта слова, а не слоў...

Калі ягоная паэзія — творчасць стомленай душы, для якой боль, выказаны ў слове, не застаецца словам, застаецца самім сабой — болем, то проза... — маладое свята сінтаксісу, у якім і боль, і радасць, і тужлівы роздум яшчэ неад'емныя ад слова...

...перш за ўсё ён паэт.

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК**

●

Стральцоў для мяне адзін з нямногіх "богаабраннікаў" у сучаснай нашай, як мог бы ён, сціпшана ўсміхнуўшыся, сказаць: "изящной словесности".

Мала каго Бог надзяляе гэткім тонкім пяром, гэткай глыбока ўнутранай, прыроднай (не нажытай-паказной-падманнай) інтэлігентнасцю, якую не запэцкаць анічым, бо яна іскрыцца шчодра з скупой-закрытай-адкрытай душы. Тут няма ніякае блытаніны. Гэта быў дужа нестандартны чалавек. Вельмі ўжо "НЕПРАНУМАРАВАНЫ".

**Алесь АСТАШОНАК**

*(Працяг на стар. 7)*

## КОЛА ДЗЁН

***"Усё цячэ, усё змяняецца", — сказаў некалі старажытнагрэчаскі філосаф. І сапраўды, няма нічога пастаяннага ў гэтым свеце. А тым больш — у палітыцы. У "вялікай" палітыцы. Бадай, усе заўважылі ўжо, што апошнім часам слова "суверэнітэт" зноў стала адным з самых папулярных. Толькі размова цяпер ідзе не пра "здачу" яго шляхам чарговай інтэграцыі, а пра ўсямернае ўмацаванне і непарушнасць. І гавораць гэта не апазіцыянеры, а першыя асобы дзяржавы. Прызнацца, у шчырасць і трываласць гэткага "курсу" пакуль што верыцца з цяжкасцю. І тым не менш — змены відавочныя. Што гэта — чарговая "кампанія", "папулісцкія" заігрыванні з Захадам, звычайны шантаж Расіі? А можа, і першае, і другое, і трэцяе разам, а яшчэ і спроба прымірэння з нацыянальнай інтэлігенцыяй? Прынамсі, з тымі, хто гаворыць: галоўнае, захаваць Беларусь, а мова, культура — адродзяцца непазбежна, калі Беларусь застанецца незалежнай. У любым выпадку — "ход" прадуктыўны. Бо рэсурсы ідэі інтэграцыі выпрацаваны ўжо дарэшты, нават у "электараце", які стаміўся чакаць выгод аб'яднання...***

### *ГУТАРКА ТЫДНЯ*

У той час, як адносіны з Расіяй застылі на "мёртвай кропцы", пэўна, да поўнага і канчатковага выздараўлення Б. Ельцына, сувязі з другой суседкай — Украінай — становяцца ўсё больш актыўнымі. На мінулым тыдні адбылася тэлефонная размова паміж прэзідэнтамі Беларусі і Украіны. Як паведамляе БЕЛТА, былі "абмеркаваны перспектывы пашырэння беларуска-украінскіх сувязей"... Аднак падобна на тое, што праанансаваная абноўленым МЗС "шматвектарнасць" знешняй палітыкі Беларусі, пакуль пачынаецца і заканчваецца Украінай. Іншыя намечаныя папярэдне візіты і сустрэчы адкладваюцца, пераносяцца. У гэтым месяцы не адбудзецца візіт прэзідэнта Беларусі ў Індыю, не плануецца сустрэча з прэзідэнтамі Польшчы і Украіны, зноў адкладзены перамовы з Б. Ельцыным... Але ўсё ж казаць пра ізаляцыю нашай краіны ў сусветнай супольнасці няма падстаў, пакуль не прыняла сваё рашэнне АБСЕ.

### *ВЫЗВАЛЕННЕ ТЫДНЯ*

Пасля дзесяцімесячнага зняволення 7 лютага быў вызвалены з-пад варты паэт Славамір Адамовіч. Рашэннем калегіі Віцебскага абласнога суда была зменена мера стрымання — у паэта ўзята падпіска аб нявыездзе. Цяпер прысуду С. Адамовіч будзе чакаць на волі... Здарылася тое, што павінна было б адбыцца 10 месяцаў таму. Застаўся яшчэ адзін маленькі крок — зняць абвінавачванне і адмяніць суд. Судзіць паэта за верш, якім бы ён ні быў, напрыканцы XX стагоддзя ў цэнтральнаеўрапейскай дзяржаве — гэта нонсенс, гэта абсурд, калі не прававое злачынства.

### *ЗДАРЭННІ ТЫДНЯ*

"Звязда" пад адной і той жа рубрыкай "Версіі" паведаміла пра два здарэнні, якія адбыліся ў адзін і той жа вечар: збіццё ў пад'ездзе свайго дома двума невядомымі дэпутата Вярхоўнага Савета Анатоля Лябедзькі і стрэл па вокнах дома галоўнага рэдактара газеты "Свабода" Ігара Герменчука... І адзін, і другі інцыдэнты расцэньваюцца пацярпелымі як спроба запалохаць іх — вядомых дзеячаў апазіцыі. "Кампетэнтныя органы", вядома, гэткую "версію" абвяргаюць.

### *ПЕРАДАЧА ТЫДНЯ*

У аўторак, 11 лютага, Беларускае тэлебачанне паказала дакументальны фільм "Успамінаючы Барыса Пастэрнака". Ці выпадкова ён "прарваўся" на нашыя тэлеэкраны? Надта ж сучасны і павучальны як для творцаў (з кім вы, дзеячы культуры?), так і для ўладаў (вечнае — прарасце, і не заглушыць яго ні пустазеллем, ні праклёнамі, ні забаронамі).

### *ПАРАЛЕЛІ ТЫДНЯ*

У сваім выступленні на пашыраным пасяджэнні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнка сказаў: "У гэтым годзе мы ўмацавалі Дзяржаўны камітэт па друку вопытнымі кадрамі, якія ведаюць сваю справу. Я спадзяюся, што ў гэтай сферы нарэшце будзе наведзены парадак". Мы таксама на гэта спадзяёмся. Але ў тых жа нумарах газет, дзе з'явіліся тэзісы гэтага выступлення прэзідэнта, надрукавана і паведамленне — выклік у МЗС Беларусі ўласнага карэспандэнта НТБ Аляксандра Ступнікава, якому паведамілі, што ў МЗС Расіі накіравана нота, дзе гаворыцца, што прадстаўніцтва НТБ у Беларусі можа быць прыпынена, калі і надалей ім будзе распаўсюджвацца "недакладная інфармацыя". З нашым Дзяржкамдрукам гэты выпадак нібыта не звязаны (і карэспандэнт — замежны), але спроба "навядзення парадку" бачыцца.

### *УДАКЛАДНЕННЕ ТЫДНЯ*

Па просьбе амбасады Украіны ў Францыі, улады аднаго з гарадоў гэтай краіны, дзе стаіць помнік каралеве Ганне, жонцы караля Генрыха І, дачцэ кіеўскага князя Яраслава Мудрага, змянілі надпіс на пастаменце. Раней было напісана: "Ганне рускай", цяпер будзе — "Ганне кіеўскай". У гісторыі, як бачым, дробязей няма. Ёсць падрабязнасці. І даволі істотныя. Украіна рупіцца пра свой гістарычны імідж... Рупіцца і Летува, том за томам выдае "Літоўскую метрыку", што вялася па-беларуску ў беларускай дзяржаве, якая называлася Вялікім княствам Літоўскім. Зрэшты, і прэзідэнт Беларусі ў сваім інтэрв'ю рэдактару "Советской Белоруссии" ці не ўпершыню "прызнаў", што ВКЛ было і беларускай дзяржавай. Няхай бы ўслед за ім прызналі тое па "вертыкалях" і "гарызанталях" — дык і ўзнікла б шкала каардынат.

**АНОНС**

# Ушануе Бацькаўшчына

***У лютым гэтага года спаўняецца 125 год з дня нараджэння выдатнага беларускага жывапісца, лірыка і рамантыка прыроднага хараства, тонкага знаўцы каларыстыкі і пластыкі жывапісу — Вітольда Бялыніцкага-Бірулі. Рэспубліканскі аргкамітэт па святкаванні юбілею вызначыў шэраг мерапрыемстваў, якія працягнуцца аж да 2000 года.***

26 лютага ў Бялынічах, на радзіме мастака ў Магілёўскай вобласці, будзе адкрыты музей, дзе размесціцца экспазіцыя з твораў Бялыніцкага-Бірулі, твораў удзельнікаў 1 Міжнароднага пленэру Бялыніцкага-Бірулі, які паспяхова адбыўся ў мінулым годзе, работ навучэнцаў мясцовай дзіцячай школы мастацтваў, графікі Л.Жуpавовіч. На ўрачыстасці мяркуецца прысутнасць мастацкай грамадскасці Беларусі, Расіі, Латвіі, Літвы, Украіны. Запрошаны старшыня праўлення Саюза мастакоў, член прэзідыума Расійскай акадэміі мастацтваў, народны мастак Расіі Валянцін Сідараў, старшыня праўлення Саюза мастакоў Масквы Гвідас Раўтонюс, старшыня праўлення Саюза мастакоў Украіны Уладзімір Чэпелык, віцэ-прэзідэнт Саюза мастакоў Латвіі Рыўто Чаўбава і іншыя. Ганаровым госцем мае быць і пісьменнік Віктар Карамазаў, які з'яўляецца аўтарам кнігі "Крыж на зямлі і поўня ў небе", якая, па сутнасці, адзіная прапагандуе і папулярызуе творчасць Бялыніцкага-Бірулі.

27 лютага ў Мінску адкрыецца выстава твораў мастака ў Нацыянальным мастацкім музеі з фондаў музея (гэта больш за 500 твораў, да збірання якіх прычынілася яшчэ былая дырэктарка музея А.Аладава). А ўвечары на ўрачыстую імпрэзу запросіць тэатр Я.Купалы.

Да святкаванняў юбілею Бялыніцкага-Бірулі Міністэрства сувязі мяркуе выпусціць юбілейную марку са штэмпелем гашэння, які будзе ставіцца толькі 26 лютага ў Бялынічах. Камітэт Дзяржкамдруку, Міністэрства культуры, Нацыянальны мастацкі музей распачалі працу над выданнем альбома аб творчасці мастака, які будзе складацца з рэпрадукцый карцін, успамінаў, здымкаў. Праца працягнецца да 2000 года. А на гэты год Дзяржкамдрук запланаваў выдаць сувенірную падборку рэпрадукцый твораў мастака ў выглядзе маленькага альбомчыка.

Каб падтрымаць традыцыі Бялыніцкага-Бірулі ў пейзажным жанры Міністэрства культуры вырашыла раз на тры гады, пачынаючы з 1998 года, абвяшчаць рэспубліканскі конкурс на лепшы пейзажны твор. А ў жніўні павінен адбыцца II міжнародны пленэр Бялыніцкага-Бірулі.

**Н.К.**

**СВЯТЫ**

# Лёсы спраўджаныя і няспраўджаныя

***Па чайнай лыжцы раз на год, але бываюць на вуліцы беларускага мастацтва сякія-такія святы. Хоць і дыхаць цяжкавата.***

Таццянін дзень адгулялі. І "Таццянін" — таксама.

Гэтым мяккім, прыветным дамскім імем назвала сябе самая абаяльная беларуская кінавідзастудыя. Роўна шэсць гадоў таму яна аб'яднала цвет айчыннага жаночага экраннага мастацтва (лаўрэат Дзяржпрэміі СССР Таццяна Логінава з паплечніцамі).

І вось — чарговыя імяніны "Таццяны", адзначаныя шчырым вадаспадам сяброўскіх кампліментаў. Распачалі кампліменціць ў праглядной зале Саюза кінематаграфістаў Беларусі — Цудоўныя Дамы адарылі прысутных свежымі сваімі стужкамі. Не скончыўся вадаспад і ў кулуарнай "другой серыі"...

Настойваю: ударная рабочая шасцігодка "Таццяны" на фоне змроку ў кінавытворчасці на Беларусі — калі не подзвіг, дык вартая глядацкіх кампліментаў падзея. Рыцаркі нашага экрана, цяпер ужо ясна, зайздросна мужныя, не пагадзіліся плысці па плыні безнадзейнасці. Яны і ў малым не саступаюць пазіцый мастацтва, не здаюцца на літасць "злобе дня". Год за годам папаўняюць сур'ёзнай гатовай прадукцыяй творчыя засекі, шчодра дораць вялікім і маленькім гледачам дабрачынныя акцыі, кінасвяты, дазваляюць сабе ўсё новыя задумы. Двух свежых прыкладаў будзе дастаткова. Нядаўна БТ прадставіла вельмі нешараговую прэм'еру "Таццян" — відэафільм "Мастак Барыс Забораў". А да сёлетняга лета, калі ў Мінску адбудзецца чарговы Міжнародны фестываль жаночага кіно (удача папярэдняга, у 1995-м, — памятная), яны ўжо рыхтуюцца.

●

Крыху раней, у снежні года мінулага, нешырокія, затое адданыя колы прыхільнікаў жывога мастацтва адзначылі ў сталічным муніцыпальным тэатры "Дзе-Я?" яшчэ адзін дзень нараджэння. Ушаноўвалі (не паверыце — паўвека ўжо бунтару сцэны!) тэатральнага рэжысёра Віталя Баркоўскага. Гэтае імя актыўна і даўно на слыху ва ўсіх. Калі дакладней — у тых, хто насуперак модзе цэніць на сцэне паводку пачуццяў, тонкі, імправізаваны малюнак, незацёртасць формы, Яго Вялікасць акцёра!

Віталь Міхайлавіч у творчасці — няхай юбіляр даруе мне ненавуковыя глядацкія эпітэты — заўсёды і лірычны, і яршысты. Яго вонкава свавольныя, незакамплексаваныя спектаклі — нязменна з сумнымі, усёразумеючымі "вачамі". Увогуле, калі ў Баркоўскага на сцэне блазенства — дык не "гарохавае". Шэкспіраўскае хутчэй.

Такая ў сённяшняй афішы тэатра "Дзе-Я?" гогалеўская "Жаніцьба", пастаўленая Віталем Баркоўскім месяцы тры назад. Рэжысёрскі падарунак-мара самому сабе?.. Падобна.

Юбілей майстра адбыўся, як яму і належыць, у сцэнічных дэкарацыях, у "капусніцкім" духу. На ім пераважала шчырасць любові і не было заслухана ніводнага прывітальнага адраса "ад імя і па даручэнні..." Шанцуе гэтаму Баркоўскаму!

Пажадаем яму аднаго: падобна на гогалеўскага героя, доўга-доўга заставацца ў жаніхах — на гэтых і іншых тэатральных падмостках.

●

А каб гэтыя юбілейныя нататкі прыхільніка мінскіх муз не папракнулі ў слепаце і саладжавасці,



фінальныя абзацы прысвячаю суровай прозе быцця. Яно ў людзей мастацтва досыць сярэднестатыстычнае беларускае, з пераходам у "зусім кепскае".

Ганебнае безграшоўе (што ў кіно, што ў тэатрах), якое адштурхоўвае творцаў самых актыўных узростаў ад любімых прафесій, — факт. "Таццяны" чакаюць у чарзе, як манны нябеснай, паўнацэнных здымачных дзён; "Дзе-Я?" рэпеціруе будучыя прэм'еры як бы ў доўг — дзяржава дазваляе...

Яшчэ — абавязковае безкватэр'е. Часам да сівізны і ўнукаў... Віталь Баркоўскі (паколькі яршысты, не з абоймы, не "заслужаны") сценамі і дахам узнагароджаны не быў. Зусім не творчыя пакуты перажываюць з сем'ямі акцёры тэатра "Дзе-Я?" у выдзеленых ім інтэрнатах. Там няма вады, затое ў наяўнасці даўно замерлы на першым паверсе высоткі ліфт і прусакі. А дзеці малыя яшчэ...

Згодны: рабочым МАЗа, гандлярам ці пекарам таксама цяжка. Але ім павагі хоць па святах перападае. А інтэлігенцыя наша, такое ўражанне, год за годам суцэльна — у чорным целе. З ранейшым кляймом "гнілая", пра што з несправядлівым болем нагадвае нам сёння яе жабрацкі бюджэт. І — няспраўджаныя лёсы, вядома.

**Сяргей ПЯТРОЎ**

*На здымку: Віталь БАРКОЎСКІ*
*Фота Генадзя ЖЫНКОВА*

**ІМПРЭЗЫ**

# Першая любоў Расіі

Сёлета "круглая" сумная гадавіна: роўна 160 гадоў назад не стала Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна. З нагоды гэтага таварыства "Беларусь—Расія" наладзіла вечарыну, прысвечаную памяці найвыдатнейшага паэта свету.

Вядучай імпрэзы стала намеснік старшыні таварыства, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Р. Баравікова. Раіса Андрэеўна з пяшчотай і любоўю прамаўляла пра вялікага паэта. Усе, хто сабраўся ў памяшканні Таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, з цікавасцю слухалі і іншых выступоўцаў: С. Грахоўскага, Л. Дранько-Майсюка, У. Паўлава, А. Сульянава. І, канечне ж, Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь В. Лашчыніна.

Паэт, старшыня Пушкінскага камітэта ў Віцебску Д. Сімановіч згадаў і аб тых сцяжынах А. Пушкіна, якія пралеглі праз Беларусь. Асобныя моманты жыцця і творчасці вялікага рускага паэта ажывалі таксама ў выступленні доктара філалагічных навук, навуковага супрацоўніка Пушкінскага дома ў Санкт-Пуцярбурзе В. Рака.

Вершы паэта чыталі навучэнцы мінскага ПТВ N 63, рамансы на яго словы гучалі ў выкананні Т.Громавай і заслужанага артыста РБ Ф. Севасцьянава, заслужаны артыст У. Шэлестаў прачытаў яго "Казку аб залатым пеўніку".

На вечары памяці прысутнічалі саветнікі пасольстваў Расіі У. Жытнікаў, Украіны — В. Мішчанка, Балгарыі — Н. Вылчаў.

Мерапрыемствы памяці А. С. Пушкіна прайшлі таксама ў многіх бібліятэках нашай краіны. Мінская ж абласная бібліятэка, якая носіць яго імя, правяла "круглы стол" "Пушкін і Беларусь".

**Н. К.**

# "Наша Ніва", выпуск другі

Выдавецтва "Беларуская навука" ажыццявіла факсімільны выпуск газеты "Наша Ніва" за 1909 год. Перадрук варты ўвагі хоць бы таму, што на сённяшні дзень нават ні ў адным буйным кнігасховішчы няма поўнага камплекту гэтага выдання. Прынамсі, згаданы выпуск зроблены з паасобнікаў, што захоўваюцца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва Рэспублікі Беларусь, у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларусі, у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, у прыватным кнігазборы Янкі Саламевіча, у Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына (г. Санкт-Пецярбург), Цэнтральнай бібліятэцы Акадэміі навук Літоўскай Рэспублікі, бібліятэцы Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі.

Выраб дыяпазітываў, рэтуш і рэстаўрацыю тэксту зрабіў П. Стрsucceededаў.

Гэта, як вядома, другі выпуск "Нашай Нівы". Першы быў зроблены выдавецтвам "Навука і тэхніка" ў 1992 годзе і ахапіў нумары за 1906—1908 гады. На жаль, выдавецкія цяжкасці затрымалі далейшы выпуск гэтай вельмі важнай на сённяшні дзень спадчыны, бо "Наша Ніва" зрабіла, як вядома, надзвычай шмат для нацыянальнага адраджэння беларускага народа, кансалідацыі лепшых сіл грамадства.

Калі першы выпуск выйшаў газетным фарматам, дык другі мае выгляд звычайнай кнігі. Гэта не дае поўнага ўяўлення аб газеце, але затое зручна для карыстання. А галоўнае ўсё ж — змест. Перагортваеш камплект за 1909 год і — адразу пераносішся ў эпоху, далёкую ад нас і адначасова вельмі блізкую нам. Многія матэрыялы "НН" і сёння гучаць вельмі актуальна. Скажам, як верш Я. Купалы "Навагодняя жаданні" (ім адкрываецца першы нумар газеты):

***Сваркі, звадкі не раз былі***
***згубай для нас,***
***Разлучалі са шчасцем,***
***з свабодай...***
***Хай жа з Новым Гадком***
***новы бліжыцца час,***
***Брацтва, роўнасць,***
***супольнасць і згода!***

Можна павучыцца ў "НН" і таму, як рабіць газету цікавай для самага рознага чытача. Ёсць тут аператыўныя паведамленні, літаратурна-мастацкія творы, шмат допісаў чытачоў, розныя парады, а здвоены (шосты-сёмы) нумар, які пабачыў свет 12 (25) лютага, выйшаў як "нумар-кніжка" і быў прысвечаны хутарскому вядзенню сельскай гаспадаркі на прыкладзе хутара Бабоўня, вёска Выня (цяпер Капыльскі раён).

Адно шкада: першы факсімільны выпуск "Нашай Нівы" меў тыраж тры тысячы экземпляраў, гэты — усяго тысячу. Але і ён не знікае маланкава з паліц кнігарань, як знік першы. Усё вельмі проста: выкласці за кнігу амаль мінімалку — далёка не кожнаму па кішэні.

**А. М.**

# Трэцяя пеўчая

Гомельскі каледж мастацтваў імя Н.Сакалоўскага ладзіць чарговую прадстаўнічую імпрэзу — ужо Трэцюю пеўчую акадэмію. Тэма — "Сучасны стан пеўчых традыцый на Беларусі". Дапамагаюць у арганізацыі Міністэрства культуры, Саюз музычных дзеячаў, Беларуская акадэмія музыкі. Праграма чатырох лютаўскіх дзён (18—21) уражвае: тэарэтычная канферэнцыя з дакладамі і дыскусіямі па праблемах гісторыі, тэорыі пеўчага мастацтва, выканальніцкага майстэрства, развіцця традыцый духоўнай музыкі ў творчасці сучасных беларускіх кампазітараў, вывучэння мясцовага фальклору... А яшчэ — адкрытыя ўрокі, майстар-класы. І вечаровыя канцэрты з удзелам Акадэмічнага народнага хору імя Г.Цітовіча, харавой капэлы імя Р.Шырмы, Камернага хору Гомельскай абласной філармоніі, вакальнага ансамбля "Чысты голас", хору Беларускай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам прафесара В.Роўды. З'язджаюцца ў Гомель вядучыя педагогі-музыказнаўцы і практыкі... Мае быць плённая і цікавая праца!

**С.Б.**

АДГАЛОСКІ

# Галоўнае, каб дайшло...

Хваля вакол ліста прэзідэнта РФ прэзідэнту РБ, здаецца, суцішылася. Сам Лукашэнка заявіў, што нават размовы не можа ісці аб ператварэнні суверэннай Беларусі ў суб'ект Расійскай Федэрацыі (інакш кажучы, у губерню); што, незалежна ад глыбіні інтэграцыі, беларускія хлопцы не будуць служыць у "гарачых кропках" і гэтак далей. Тэма, нібыта, закрыта. Адчуўшы, што расійская палітычная эліта не збіраецца іграць па ягоных правілах, прыкінуўшы "за" і "супраць" інтэграцыі на ўмовах Ельцына, Аляксандр Рыгоравіч зрабіў правільны выбар.

Прыгадваецца, калі ў Вярхоўным Савеце яшчэ толькі дыскутавалася пытанне аб ператварэнні парламенцкай рэспублікі ў прэзідэнцкую, дэмакраты выступалі супраць прэзідэнцтва. Іхняя пазіцыя грунтавалася на тым, што на пераходным перыядзе, пакуль яшчэ не паўсталі моцныя партыі — а значыць і няма моцнага парламента, прэзідэнт атрымае занадта многа ўлады. Але былі сярод дэмакратаў і другія меркаванні: сам інстытут прэзідэнцтва з'яўляецца адным з гарантаў суверэнітэту. Сёння атрымліваецца, што мелі рацыю і адны, і другія. Занадта многа ўлады ў аднаго чалавека — гэта кепска, і тут трэба нешта рабіць... Але, з другога боку, прэзідэнт актывізаваў сякія-такія захады на ўмацаванне дзяржаўнасці. Логіка тут простая: Беларусь губляе суверэнітэт — прэзідэнт губляе сябе.

Прэм'ер-міністр Кебіч, пэўна, не раздумваючы здаў бы Беларусь Расіі за пасаду віцэ-прэм'ера ўрада РФ. Прэзідэнт Лукашэнка (дарэчы, цікава, як бы паводзіў сябе ў сённяшняй сітуацыі прэзідэнт Кебіч?), таксама разыгрываючы расійскую карту, таксама дэкларуючы "інтэграцыю", увесь час памятае пра тое, што ён можа ў выніку "інтэграцыі" страціць. Такім чынам, ягоная амбіцыйнасць становіцца ў нейкай ступені гарантам суверэнітэту. Прыклад гэтаму — рэакцыя А.Лукашэнкі на ліст Б.Ельцына.

Але ў блізкім часе для прэзідэнта РБ можа скласціся сітуацыя, калі, як кажуць, стане не да юру, абы вынесці скуру. Кебіч здаў бы краіну, ратуючы самога сябе. Ён бы збег пад крыло Масквы, пацягнуўшы за сабою і Рэспубліку Беларусь. І кожны палітык "кебічавай школы" паводзіў бы сябе ў крытычнай сітуацыі, як Кебіч. Калі **можна выбіраць** паміж беларускім прэзідэнцтвам і расійскім губернатарствам — ён выбраў бы прэзідэнцтва; а калі **вымушаны выбіраць** паміж губернатарствам і асабістай бяспекай — выбраў бы губернатарства.

Аляксандр Рыгоравіч зрабіў шэраг захадаў па ўмацаванні сваёй улады. Новая рэдакцыя канстытуцыі робіць яго прэзідэнтам, якога немагчыма змясціць з пасады. Тут згадваецца прымаўка старажытных рымлян, якая ў вольным перакладзе гучыць так: "Патрэба плюе на законы".

"Вясна-97", калі яна адбудзецца, зноў будзе здзейснена сіламі моладзі. Іншая справа, калі выйдзе на вуліцы рабочы люд. Сёння тысячы людзей толькі лічацца на працы, атрымліваючы за гэта тры чвэрці ад звычайнага заробку. Фактычна ж яны — беспрацоўныя. (Парадокс у тым, што сацыяльны выбух можа быць справакаваны якраз запускам прадпрыемстваў, бо па першым часе за працу людзі будуць атрымліваць меней, чым сёння за прастой.) Вось тады і ўзнікне рэальная пагроза ўладзе, якая можа зрабіць тое, што зрабіў бы Кебіч, калі б нешта пагражала асабіста яму.

Каб у Расіі не было спакусы ў гэтай гіпатэтычнай сітуацыі адказаць узаемнасцю на новыя "інтэграцыйныя" захады, прыхільнікам Незалежнасці трэба парупіцца ўжо сёння. Трэба, каб усходні сусед адчуў, што ён набудзе не паслухмяную губерню, а міннае поле, на якім можа падарвацца цэласнасць Расійскай Федэрацыі і загінуць так не надта высокі прэстыж Расіі ў свеце.

Сродкі для "асветніцтва" Расіі могуць быць самыя розныя.

Галоўнае, каб дайшло...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

ВІНШУЕМ!

# Што ў вечар лютаўскі сагрэе?



Днём з неба сонейка ўсё весялей пазірае, вясну набліжае. А ў прыцемках вечаровых разумееш: да вясны яшчэ далёка, вецер колкі, дарогі коўзкія. І раптам — гэтае адчуванне ўтульнасці, цеплыні, нейкай шчырай дзіцячай радасці. Адкуль яно? Ад мастацтва. Светлага, жыццярадаснага, крыху наіўнага і нават дураслівага, маляўнічага, непасрэднага і шчырага мастацтва аперэты! Здаецца, нядаўна падарыў сваім шматлікім прыхільнікам і сябрам па творчасці вось такі шчыры цёплы вечар Аляксей Ісаеў. Вядучы саліст Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Беларусі, ён наладзіў на роднай сцэне яскравую імпрэзу, бенефіс "У коле сяброў". У коле сяброў — артыстаў, музыкаў аркестра на чале з маэстра Аляксандрам Сасноўскім, заўсёды шчодрай на любоў публікай — зімовы вечар і сапраўды робіцца цяплейшым. І як жа, напэўна, пацяплела на сэрцы ў Аляксея Ісаева і ягоных сяброў ды прыхільнікаў, калі неўзабаве пасля той святочнай тэатральнай падзеі адбылося нешта зусім заканамернае, але ад гэтага не менш пачэснае і хвалюючае. Што? За вялікі ўклад у развіццё музычнага мастацтва і высокае прафесійнае майстэрства Аляксею Ісаеву, працавітаму, патрабавальнаму да сябе, яркаму выканаўцу нададзена званне заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь. Парадуемся за яго!

**С.Б.**

*На здымку: у спектаклі "Viva la Mamma!" Аляксей Ісаеў ладзіць з публікай самую шчырую сувязь.*

*Фота Віт.АМІНАВА*

ПРАБЛЕМЫ

# Быць ці не быць?

Тое, што ў былы будынак Інстытута мовазнаўства і Інстытута матэматыкі перасяляецца факультэт міжнародных адносін беларускага дзяржаўнага універсітэта (у бліжэйшы час ён мае набыць статус інстытута пры Міністэрстве замежных спраў) — не такая ўжо навіна. Зараз вісіць каля ўваходных дзвярэй шыльда факультэта, але ўжо амаль на ўсіх паверхах будынка вядзецца капітальны рамонт. Перабраліся на новае месца матэматыкі, а мовазнаўцаў раскідалі па пакоях суседняга корпуса Акадэміі навук. А што будзе, дзе знойдзе прытулак іх каштоўная картатэка, не перагнаная на дыскеты з-за хранічнага незабеспячэння фінансаваннем?

У дадатак да будынка факультэт (інстытут) міжнародных адносін захацеў мець і канферэнцзалу, якая знаходзіцца на другім паверсе гэтага корпуса, якраз над Музеем старажытнай беларускай культуры, побач з яго філіялам — Чарнобыльскім музеем. У канферэнц-зале месціцца зараз выставачная зала камерцыйнай фірмы. Кепска, скажаце, але гэта толькі характарызуе жахлівае фінансавае становішча гуманітарных інстытутаў Акадэміі навук. Пераход у канферэнц-залу з аднаго корпуса ў другі з-за непатрэбнасці быў некалькі год таму зачынены, у ім два гады назад 26 красавіка быў адкрыты Чарнобыльскі музей з унікальнымі, прывезенымі з радыяцыйнай зоны экспанатамі. Музей гэты стварыўся некалькі гадоў на энтузіязме супрацоўнікаў сектара старажытнабеларускай культуры. 200 метраў выставачнай плошчы былі афіцыйна аддадзены пад музей (зроблены праект, захавана пажарная бяспека). У ім сабраны каштоўныя старажытныя рэчы са знішчаных цяпер вёсак. Аналагаў музею няма ні ў Беларусі, ні ў бліжэйшых краінах, таксама пацярпелых ад чарнобыльскага выбуху.

І вось цяпер факультэт патрабуе сабе гэты калідор-пераход. Гэтае патрабаванне, па сутнасці, пагражае музею знішчэннем. Перанесці яго проста няма куды. Кіраўніцтва Акадэміі навук выказваецца за тое, каб музей застаўся на старым месцы. Ці прыслухаюцца да іх думкі?

**Наталля ЖОГЛА**

ЭКСЛІБРЫС

# "Уладары Вялікага княства"

*Вітаўт Чаропка, "Полымя", 1996.*

**Своеасаблівым працягам кнігі Вітаўта Чаропкі "Імя ў летапісе" з'явілася новая кніга ягоных даследаванняў па гісторыі Беларусі. Унікальная з'ява, калі беларускія пісьменнікі: М.Ермаловіч, К.Тарасаў, У.Арлоў, і ў немалой ступені В.Чаропка, зрабілі гэтую работу — далі звязны і лагічны дакументальны выдарыс гісторыі Беларусі — што не здолелі зрабіць тысячы абкандыдачаных прафесійных гісторыкаў.**

**В.Чаропка ў сваёй кніжцы ідзе "кастамараўскім" шляхам, спыняючы сваю ўвагу на выбітных асобах нашай Айчыны. І адначасна перад намі раскрываецца найцікавейшая і найзахаплялльная панарама беларускага палітычнага і культурнага жыцця ў 16—17 стагоддзях.**

**Добра валодаючы літаратурным словам, а таксама маючы выразнае пачуццё суперажывання да тэмы размовы, В.Чаропка літаральна ажыўляе сваіх герояў і перадае чытачу сваё захапленне гэтымі асобамі.**

**Ды і як можна не паважаць і не захапляцца нашымі высакароднымі продкамі, кіраўнікамі старажытнае Беларусі, калі яны, як адзін, былі высокакультурнымі, адукаванымі людзьмі. Так, і Міхайла Глінскі, і Ян Караль Хадкевіч, і Януш Радзівіл, і Леў Сапега ды іншыя асобы, пра якіх піша В.Чаропка, не адзін год пражылі ў Еўропе, вучыліся там ва універсітэтах, вывучалі вайсковую справу, перш чым займелі рэальную ўладу ў сябе на Радзіме. І тут, на Беларусі, яны баранілі незалежнасць нашай Бацькаўшчыны і развіцую, як нідзе, дэмакратыю і правы чалавека, як ні дзіўна гэта зараз гучыць.**

**Яшчэ ў 16 стагоддзі адзін з "уладароў Вялікага княства" Мікалай Радзівіл Руды сказаў: "мы людзі вольныя, з усякім народам можам параўнацца сваімі вольнасцямі, пачцівымі заслугамі нашых продкаў... А калі хто хоча забраць у мяне волю, дык буду лічыць яго тыранам".**

**Незалежнасць Бацькаўшчыны і асабістая воля — асноўныя лозунгі, выпісаныя на харугвах беларускай сярэдневяковай гісторыі. Менавіта таму, падаецца, з гэтай сапраўднай гісторыяй ніяк не могуць пагадзіцца дамарослыя і прышлыя культтрэгеры, выхаваныя на нянавісці да ідэй незалежнасці і дэмакратыі.**

**Урэшце, з кнігі цікава было даведацца і пра Канстанціна Астрожскага, які перад знакамітай Аршанскай бітвай яшчэ ў 1500-м годзе пад Дарагабужам адчайна выратаваў "мала ці шмат будзе маскавітаў, але, спадзеючыся на Божую дапамогу, біцца з імі, а без боя не вяртацца". І пра імператара Максіміляна, які ў 1-й палове 16 стагоддзя зразумеў, што "цэласнасць Літвы — неабходна для карысці ўсёй Еўропы: вялікасць Расіі небяспечна". І пра рускага цара Васіля, які прысягнуў "пакуль конь мой будзе хадзіць і меч секчы, не даць спакою Літве".**

**А ўсё гэта — наша гісторыя, вывучэнне і асвятленне якой, па сутнасці, толькі пачынаецца.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

## *"Спартак" у гонар майстра*



**Віктар Саркісьян ва ўсіх ролях уражваў выразнай, адточанай пластыкай і лёгкім, нібыта палёт, скачком. Рознабаковы талент артыста доўгі час зіхацеў у сузор'і майстроў беларускага балета, выклікаючы захапленне ў "Лебядзіным возеры" і "Кармэн-сюіце", у "Бахчысарайскім фантане" і "Стварэнні свету", у "Дон Кіхоце" і "Папялушцы". А спектаклі на музыку беларускіх кампазітараў: "Пасля балю" Г. Вагнера, "Ціль Уленшпігель" Я. Глебава, ягоная ж "Альпійская балада"! Дарэчы, менавіта народны артыст Беларусі Віктар Саркісьян на працягу некалькіх сезонаў заставаўся адзіным і непаўторным выканаўцам партыі Івана ў гэтым легендарным творы нашай харэаграфічнай сцэны.**

**Днямі майстар класічнага танца зноў, пасля ладнага перапынку, выйшаў на родную для яго сцэну Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета рэспублікі. Выйшаў у ролі... Як бы тут больш дакладна сказаць? У складанай ролі сваяка, сябра і ганаровага госця тэатра — аднача́сова! У той вечар давалі "Спартак" А. Хачатурана, той самы спектакль В. Елізар'ева, у якім на пачатку 80-х не было роўных В. Саркісьяну ў вобразе Краса. Сёння жыццё таленавітай пастаноўкі трымаецца майстэрствам і натхненнем новага пакалення артыстаў балета. Сярод іх ёсць і выхаванцы Віктара Саркісьяна, чые педагагічныя здольнасці раскрыліся яшчэ 30 гадоў таму, калі малады саліст балета пачаў выкладаць у харэаграфічным вучылішчы. Цікава, што гэтая "круглая" дата яго настаўніцтва супала з сёлетнім юбілеем: 6 лютага Віктару Саркісьяну споўнілася пяцьдзесят.**

**С. Б.**

*Здымак зроблены падчас колішняй філарманічнай вечарыны "Яўген Глебаў прадстаўляе..." — народны артыст Беларусі В. САРКІСЬЯН сярод сваіх выхаванцаў.*

*Фота Віт. АМІНАВА*

## *Мінскі кінатэатр "Змена" запрашае*

**18 лютага ў 9 гадз. 30 мін. пачнецца кінапраграма "Літаратурныя героі на экране". Будуць паказаны мастацкі фільм "Паром" паводле апавядання У.Караткевіча "Паром на бурнай рацэ" і дакументальная стужка "Акафіст Уладзіміру". У сустрэчы прыме ўдзел рэжысёр фільма "Паром" У.Бокун.**

**19 лютага ў 12 гадз. — прагляд дакументальных фільмаў "Евангелле ад мамы" і "Апошні човен". У госці да гледачоў прыйдуць народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, кінарэжысёр С.Пятроўскі, мастацкі кіраўнік студыі "Летапіс" У.Халіп і галоўны рэдактар С.Палякоў.**

**20 і 21 лютага ў 13 гадз. пачынаецца кінапраграма "Старонкі нашай гісторыі". Будуць паказаны дакументальныя стужкі "Віленскі зборнік", "Гетман найвышэйшы", "Лёгкі ветрык арэляў", "Канцлер Леў Сапега".**

**21 лютага ў 18 гадз. дэманструюцца дакументальныя фільмы "Данчык" і "Вяртанне Міхася Забэйды".**

СІТУАЦЫЯ

# Хто ж заказвае музыку?

Такіх музыкантаў, як Уладзімір Захараў, на Беларусі раз, два і... Нават грэшна лічыць: талент — гэта ж сама непаўторнасць! Пра ягоны талент выканаўцы, кампазітара, мастака, педагога наш чытач, канечне, ведае. Бо "ЛіМ" неадноййчы прадстаўляў Уладзіміра Захарава — як першага беларускага гітарыста, ганараванага лаўрамі міжнародных конкурсаў; як аўтара арыгінальных твораў для свайго інструмента; як настаўніка юных лаўрэатаў. Цяпер можна прадставіць яго і як энтузіяста, спрычыненага да нотадрукавання.

А нотадрукаванне сёння ў нас — не тое, што ў часы яго росквіту на землях беларускіх два стагоддзі таму. Няма ў нас дзяржаўнага музычнага выдавецтва, няма спецыялізаваных нотных друкарняў; зрабіць камп'ютэрны набор твора — таксама праблема. І спонсараў для гэтай "грошапаглынальнай" справы адразу не знойдзеш. Тым часам у краіне нашай не тое што попыт — **голад** на нотную літаратуру, які адчуваюць і пачаткоўцы, і студэнты, і педагогі, і прафесійныя выканаўцы, і апантаныя аматары музыкі. Так што намер Уладзіміра Захарава выдаць зборнік уласных твораў стаўся не толькі праявай яго аўтарскай зацікаўленасці, а і канкрэтным адказам на запатрабаванні многіх і многіх беларускіх гітарыстаў.

Для публікацыі ён выбраў п'есы, паяднаныя ўмоўнаю назвай "Настальгія па Вялікім княстве". Гэта разгорнутыя кампазіцыі на тэмы старажытных беларускіх песень і песень суседніх Летувы ды Польшчы: "Прэлюд і фугета на славянскія тэмы", "Грунвальдская пастараль", "Варыяцыі на літоўскую тэму", прысвечаныя памяці М. Чурлёніса. Сваім самабытным вобразным зместам і тэхнічнай адмысловасцю яны здатныя упрыгожыць рэпертуар канцэртнага выканаўцы, зацікавіць студэнтаў музычных навучальных устаноў... Але для таго, каб новы нотны зборнік пабачыў свет, аўтару даваўся патраціць нямала часу і — грошай.

Жыве Уладзімір Захараў, як вядома, у Гародні, працуе выкладчыкам у музычным вучылішчы. Але дзякуючы сваёй вядомасці ў вялікім гітарным свеце ўдалося яму заключыць выгадны кантракт з іспанскім імпрэсарыо, і гастролі ў прыгожай паўднёвай краіне прынеслі не толькі мноства прыемных уражанняў, поспех і творчае задавальненне, але і неблагі заробак. Асноўная частка іспанскага ганарару пайшла на выданне зборніка. Дапамаглі і спонсары — Гарадзенскае абласное аддзяленне Беларускага фонду культуры, гарвыканкам. Разам з С. Сухоцкім, высакакласным спецыялістам, які ажыццявіў набор і тэхнічную рэдакцыю, У. Захараў гадзінамі праседжваў ля камп'ютэра. На выпуск "Музыкі для гітары" аддаў ён пайгода свайго неспакойнага творчага жыцця. З пяцісот асобнікаў раздўпадараваў не адзін дзесятак. А што ж рабіць з рэштай накладу?

Вось тут і сутыкнуўся далікатны музыка з вульгарнай праблемай, якую прадбачыць проста не мог.

Ведаючы, які вялікі ў нас попыт на гітарную літаратуру, вырашыў ён (і зусім лагічна!) рэалізаваць навінку праз **адзіную** ў краіне спецыялізаваную краму "Ноты". Прыехаў у сталіцу, ды аказалася — дарэмна: літаратуру на рэалізацыю прымаюць у той краме толькі па серадах, дачакаўся серады, патрапіў у жахлівую чаргу, з якой мусіў пайсці, каб не спазніцца на вакзал. Узяўся дапамагчы мінскі сябра: стойка пратрымаўся ў чарзе, але здаць змог толькі адну-адзіную нотную кніжачку, бо як ад прыватнай, а не юрыдычнай асобы ў яго не мелі права прыняць "партыю тавару".

Са здзіўленнем і нават абурэннем распавёў мне У. Захараў пра свае адкрыцці ў "справе рэалізацыі нотнай літаратуры". Сярод здатчыкаў эратычных кніжак і "піратскіх" перадрукаў (не пазначаных ні аўтарствам, ні нумарам ліцэнзіі, напрыклад, рэпертуару "Бітлз" ці гітарных акордаў) ён выглядаў белай варонай са сваім некамерцыйным, прапанаваным па сабекошце, зборнікам. З боку адміністрацыі "Нотаў" ён адчуў штосьці зусім супрацьлеглае звычлівасці і зацікаўленасці, нават выслухаў прысуд: маўляў, ягоная музыка складаная і таму попыту на яе не будзе. І гандлёвую "накрутку" прапанавалі — сто працэнтаў ад сабекошту, а не 20—30, як прасіў аўтар.




Затое ў музычным аддзеле, што ў сталічнай кнігарні "Падпісныя выданні", частку тыражу прынялі з задавальненнем і на ўзаемавыгадных умовах... А хацелася б, каб "Музыка для гітары" з'явілася на паліцах магазіна "Ноты".

І яшчэ адно. Нотны сшытак Уладзіміра Захарава з прыемнасцю купляла замежная публіка падчас яго гастрольнага турнэ. І канцэрты ягоныя, пераважна ў старадаўніх замках ды каталіцкіх цэрквах, праходзілі з шумным аншлагам. Аматары класічнай гітары (а ў Іспаніі гэта і дзеці, і людзі сталыя, і неабавязкова музыканты) горача прымалі творы Баха, Альбеніса і ... самога Уладзіміра Захарава.

Праўда, гітару любяць, як свой родны інструмент, і слухачы беларускія. І сталічныя канцэрты гарадзенскага музыканта праходзілі з аншлагам. І зборнік ягоных п'ес, думаю, таксама будзе мець поспех у суайчыннікаў. Калі яны, добра пашукаўшы, той зборнік знойдуць у продажы...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

# Перакладчыкі занепакоены

Секцыя перакладу і сувязяў Саюза пісьменнікаў на сваім чарговым пасяджэнні абмяркоўвала некаторыя аспекты выкладання замежнай літаратуры ў сярэдняй школе і дзяржаўную кнігавыдавецкую палітыку ў гэтай справе.

Падставай для размовы стаў выхад у мінулым годзе ў выдавецтве "Юнацтва" цэлага шэрагу кніг з серыі "Школьная бібліятэка", значная частка якіх — перакладныя.

Загадчык секцыі І. Чарота адзначыў, што, на жаль, ніхто з выдаўцоў не паклапаціўся пра тое, каб анансаваць настаўнікам гэтыя кнігі, чым было б часткова знята пытанне распаўсюджвання, а таксама і адпаведнасці дадзенай серыі праграмным патрабаванням школы.

Пытанні выклікаюць і некаторыя імёны аўтараў, выдадзеных у "Школьнай бібліятэцы", якая павінна ўключаць класічныя, апорныя для школы імёны і творы. Таксама малазразумелы і выбар да выдання таго ці іншага перакладу класічных твораў на беларускую мову. Хто вызначае, які з некалькіх існуючых перакладаў найлепшы і найбольш адаптаваны для школы? Прысутныя на секцыі не здолелі адказаць на гэтае пытанне.

Выдаўцы практычна не кансультуюцца з перакладчыкамі, не супрацоўнічаюць з імі, у чым ёсць сур'ёзная патрэба. Існуючы падыход прыводзіць да з'яўлення выпадковых імёнаў і захавання "белых плямаў" у гісторыі літаратурных перакладаў.

Выкладанню літаратуры ў школе сёння бракуе спалучэння замежных і роднай літаратур. Многія настаўнікі фармальна лічаць замежнай рускую літаратуру, а фактычна замежная амаль не выкладаецца.

Хрэстаматыі па замежнай літаратуры ў беларускіх перакладах у апошнія гады былі створаны Інстытутам літаратуры імя Я. Купалы і Беларускім гуманітарным ліцэем і амаль у імгненне вока зніклі з паліц кнігарняў, што яшчэ раз засведчыла вялікую патрэбу ў падобных выданнях. Але да гэтай пары мы не маем адпаведнага метадычнага дапаможніка для правядзення урокаў, які проста як паветра неабходны настаўнікам, а таксама студэнтам філалагічных факультэтаў. Творы і аўтары, якія змяшчаюцца ў хрэстаматыях, павінны адпавядаць патрэбам і вышэйшай школы. Неабходна максімальная выверанасць у гэтым пытанні.

І. Чарота паскардзіўся на тое, што ў праграмах і хрэстаматыях вельмі слаба прадстаўлены славянскія літаратуры. У прыватнасці, складальнікі старанна абыходзяць бокам сярэднявечны сербскі гераічны эпас, пра каштоўнасць якога вядучыя славянскія даследчыкі казалі яшчэ ў пачатку XIX стагоддзя. Такім чынам, цэлы пласт культуры выключаны са свядомасці навучэнцаў. Аналагічныя заўвагі можна прад'явіць і серыі "Скарбы сусветнай літаратуры", якая ўжо некалькі гадоў запар выдаецца без адпаведных кансультацый з перакладчыкамі і іншымі зацікаўленымі асобамі.

Справа распрацовак, рэкамендацый і загадаў выдавецтвам манапольна перададзена ў рукі Навукова-метадычнага цэнтра пры Міністэрстве адукацыі, які пад пэўныя грошы заказвае тыражы выдавецтвам. Пры гэтым стопрацэнтовая датацыя робіцца ўжо па выхадзе кнігі ў свет, а за тыраж звыш запланаванага датацыя складае ўжо 50 працэнтаў.

Удзельнікі пасяджэння даведаліся, што кошт выдання адной кнігі ў мінскіх выдавецтвах сёння складае каля 200 млн. рублёў. Загадчык рэдакцыі выдавецтва "Юнацтва" У. Марук расказаў, што тыражы кніг школьнай серыі ў яго выдавецтве сёлета скараціліся з 15—28 тыс. асобнікаў да 5—15 тысяч. Пры такім раскладзе патрэбная кніга наўрад ці патрапіць нават у кожную школьную бібліятэку краіны.

У 1994—95 гг. у "Юнацтве" не было ні адной пазіцыі па "Школьнай бібліятэцы", у 1996 — 35, з іх 14 перакладных, а ў 1997 — тры (гэта "Канёк-Гарбунок" П. Яршова ў перакладзе П. Місько, "Браты Ільвінае Сэрца" А. Ліндгрэн і "Вайна сусветаў" Г. Уэлса). На 1997 год па ўсіх беларускіх выдавецтвах будзе каля 10 пазіцый па "ШБ", а на 1998 — пакуль аніводнай.

Такім чынам, праблема выдання перакладаў класікі для дзяцей успыхвае і гасне ў саміх выдавецтвах, а выдаўцы выконваюць ролю чыста тэхнічных выканаўцаў. Выдавецтвы перастаюць быць зацікаўленымі ў паслугах перакладчыкаў.

В. Рагойша паведаміў, што, на жаль, не выйдуць у свет яго "Слоўнік літаратуразнаўчых тэрмінаў", дапаможнік па вывучэнні польскай мовы А. Кіклевіча і іншых, зняты з друку "Востраў скарбаў" Р.-Л. Стывенсана ў перакладзе А. Асташонка.

Секцыя перакладу ў сваёй рэзалюцыі адзначыла наступнае.

Пры існуючым стане рэчаў, калі Навукова-метадычны цэнтр дыктуе і размяркоўвае, канцэпцыі выдання серыі "Школьная бібліятэка" ўвогуле не існуе. У планы ўключаючца непраграмныя імёны і творы, што не можа не дыскрэдытаваць самую ідэю. У выніку серыя праходзіць амаль незаўважанай грамадскасцю і таму не з'яўляецца дзейсным чыннікам літаратурнага і асветнага працэсу.

Тэндэнцыя зніжэння ролі беларускай мовы як мовы выкладання замежных літаратур абсалютна недапушчальна, бо супярэчыць канцэпцыі нацыянальнай школы.

Выключна абсурднай з'яўляецца сітуацыя, калі пры невялікіх тыражах немагчыма падпісацца ў выдавецтве на пэўную колькасць асобнікаў той ці іншай кнігі, і асабліва з серыі "Школьная бібліятэка".

Секцыя перакладу прапаноўвае супрацоўніцтва ўсім зацікаўленым асобам, у тым ліку і Навукова-метадычнаму цэнтру, уважліва і з максімальнай адказнасцю падыходзіць да такой найважнейшай справы, як кнігавыданне для школы.

Пэўным крокам у гэтым накірунку было б стварэнне кансультацыйнай рады для выдання перакладной часткі "ШБ", а таксама сур'ёзнае абмеркаванне гэтага пытання на старонках перыядычных выданняў, у прыватнасці "Настаўніцкай газеты", "ЛіМа", "Нашага слова" і іншых.

У гаворцы прынялі ўдзел У. Казбярук, У. Скарынкін, У. Аніскові́ч, Л. Казыра, У. Мархель, К. Цвірка.

**І. ПАНАМАРЭНКА**

БЫЛО...

***Юбілеі бываюць розныя. Светлыя, радасныя і чорныя, сатанінскія.***

***Вось такі "сатанінскі" юбілей прыпадае на сёлетні год. Акурат 60 гадоў сплыло пасля лютаўскага (1937 года) пленума ЦК ВКП(б) і выступлення на ім Сталіна, што паклалі пачатак нябачаным у свеце масавым рэпрэсіям, ахвярамі якіх сталі мільёны ні ў чым не вінаватых людзей.***

***Бальшавіцкі рэжым, што ўсталяваўся на прасторах былой расійскай імперыі ў кастрычніку 1917 года, з першых жа дзён узяў курс на прымус, на знішчэнне так званых эксплуататарскіх класаў, на здзек з чалавечай асобы, чалавечай годнасці, ператварэнне "вернападданых" у шурупчыкі дзяржаўнай машыны.***

***Але менавіта трыццаць сёмаму году было суджана застацца ў гісторыі своеасаблівым "імем назоўным" — найбольш яркім сімвалам савецкай эпохі, увасобіўшым самыя пачварныя, самыя страшныя рысы таталітарнага сталінскага рэжыму.***

***Могуць сказаць: усё гэта справа даўно мінулых часоў, ці варта згадваць іх, ці варта вярэдзіць старыя раны? Варта і трэба! Гэта ж аксіёма, што чалавецтву не ўласціва вучыцца на ўласных памылках. Хіба сёння мы зноў не сустракаемся з многімі праявамі, уласцівымі таталітарным рэжымам з іх уціскам правоў і свабод чалавека, хіба сёння няма ўжо людзей, што ў час святочных шэсцяў нясуць партрэты з выявай вусатага "бацькі народаў", аднаго з самых страшных злачынцаў, якіх ведала гісторыя?***

***Артыкул гісторыка Ігара Кузняцова, які мы прапануем увазе чытача, даследуе вытокі і арганізацыю масавых рэпрэсій у тым чорным, трыццаць сёмым.***

***Перагорнем разам з ім старонкі мінулага...***

# В. Молатаў: "37 год быў неабходны..."

Летам 1936 г. Сталін пачаў непасрэдную падрыхтоўку да тых падзей, якія заўсёды будуць у нас асацыіравацца з 1937 годам — годам вялікіх рэпрэсій. У чэрвені ён даў указанне органам НКУС арганізаваць новы палітычны працэс, на гэты раз — над трацкістамі і зіноўеўцамі разам. 29 ліпеня ЦК ВКП(б) адобрыў закрытае пісьмо аб тэрарыстычнай дзейнасці трацкісцка-зіноўеўскага контррэвалюцыйнага блока. Яго склалі на падставе дадзеных, выбітых на допытах Зіноўева, Каменева, Бакаева, Еўдакімава, Мрачкоўскага і іншых відных дзеячаў партыі, якіх у камерах НКУС днём і ноччу "рыхтавалі" да адкрытага працэсу. З гэтых паказанняў вынікала, што НКУС ускрыў шэраг тэрарыстычных груп трацкістаў і зіноўеўцаў, якія рыхтавалі забойствы правадыроў партыі і дзяржавы. У сувязі з гэтым трацкісты і зіноўеўцы былі аб'яўлены ў пісьме злоснымі ворагамі Савецкай улады. ЦК заклікаў усіх камуністаў да павышэння пільнасці "на любым участку і ва ўсялякай абстаноўцы". "Неад'емнай якасцю кожнага бальшавіка, — гаварылася ў заключнай частцы дакумента, — у сапраўдных умовах павінна быць уменне распазнаваць ворага партыі, як бы добра ён ні быў замаскаваны".

Не паспелі на месцах абмеркаваць закрытае пісьмо ЦК і выявіць чарговую "порцыю" "ворагаў народа", як з цэнтра падаспеў новы сігнал: у жніўні ў Маскве быў праведзены працэс па справе так званага "антысавецкага аб'яднанага трацкісцка-зіноўеўскага цэнтра". Суд гэты суправаджаўся магутнай прапагандысцкай кампаніяй, праведзеннем шматлікіх мітынгаў, сходаў, на якіх прымаліся рэзалюцыі ў падтрымку расстрэлу ворагаў народа, прамаўляліся клятвы вернасці правадыру. Па краіне пракацілася хваля новых арыштаў.

Падрыхтаваўшы адпаведную глебу, Сталін вырашыў узмацніць рэпрэсіі шляхам змены кіраўніцтва НКУС. 25 верасня 1936 г. ён паслаў з Сочы ў Маскву тэлеграму з патрабаваннем замяніць Ягоду Яжовым і пераадолець адставанне ў выкрыцці ворагаў. Ужо на наступны дзень паслухмянае Палітбюро ЦК ВКП(б) выканала патрабаванні Сталіна, а 29 верасня прыняло пастанову "Аб адносінах да контррэвалюцыйных трацкісцка-зіноўеўскіх элементаў", пад якім Сталін паставіў свой подпіс. У пастанове гаварылася: "Да апошняга часу ЦК ВКП(б) разглядаў трацкісцка-зіноўеўскіх нягоднікаў як перадавы палітычны і арганізацыйны атрад міжнароднай буржуазіі. Апошнія факты сведчаць, што гэтыя паны скаціліся яшчэ больш уніз, і іх даводзіцца цяпер разглядаць як разведчыкаў, шпіёнаў, дыверсантаў і шкоднікаў фашысцкай буржуазіі ў Еўропе. У сувязі з гэтым неабходна расправа з трацкісцка-зіноўеўскімі нягоднікамі, якая будзе ахопліваць не толькі арыштаваных, следства па справе якіх ужо закончана, і не толькі падследных... справы якіх яшчэ не закончаны, але і тых, хто быў раней высланы". Так быў дадзены сігнал да татальнага знішчэння былых апазіцыянераў і тых, каго у гэтым падазравалі.

Чым больш даведваемся мы аб выніках масавых рэпрэсій, іх неверагоднай жорсткасці, тым часцей гучыць пытанне: дзеля чаго, у імя якой мэты былі праліты гэтыя рэкі крыві, на што разлічваў Сталін?

Доўгі час неаспрэчнай ісцінай лічылася, што ахвярамі рэпрэсій былі тады сапраўдныя ворагі. Прыхільнікі гэтага пункту гледжання існуюць і сёння. Праўда, найбольш разумныя з іх пад націскам відавочных фактаў і выкрыцця апошняга часу "перабудаваліся" і прызнаюць, што побач з "ворагамі" пацярпелі і сумленныя людзі. Проста "ворагаў", маўляў, было шмат, а таму Сталін і карныя органы не здолелі разлічыць сілу свайго ўдару і, размахнуўшыся, зачапілі невінаватых.

На самай справе зыходным пунктам для сур'ёзнай размовы аб прычынах рэпрэсій можа быць толькі безумоўнае прызнанне: гэта было злачынства, пры дапамозе якога Сталін разлічваў вырашыць рэальныя праблемы, дасягнуць канкрэтных палітычных і сацыяльна-эканамічных вынікаў, пераадолець супярэчнасці абранай ім мадэлі грамадскага развіцця. Пры дапамозе рэпрэсій Сталіна, па-першае, умацоўваў свае палітычныя пазіцыі як адзінаасобны правадыр і дыктатар, а па-другое, вырашаў усе тыя праблемы, якія ў дэмакратычным грамадстве пераадольваюцца шляхам прымянення палітычных, эканамічных і толькі ў крайнім выпадку адміністрацыйна-рэпрэсіўных мер.

У 1937 г. Сталін нанёс перш за ўсё ўдар па партыі, яўна намерваючыся "ачысціць" яе ад старых кадраў і прывесці да ўлады новае пакаленне, цалкам адданае правадыру. Старыя камуністы не задавальнялі "правадыра" ўжо таму, што ў іх вачах ён не быў абсалютна бясспрэчным аўтарытэтам. Што б ні гаварылі гэтыя людзі з высокіх трыбун, як бы ні кляліся яны правадыру ў вернасці, Сталін ведаў: старыя партыйцы добра помняць і пра шматлікія правалы "генеральнай лініі" ў 30-я гады.

Як правіла, тыя, хто рана ці позна падвергся крытыцы кіраўніка, аб'яўляліся ворагамі народа. Людзей пераконвалі, што злоўжыванні і самадурства прадстаўнікоў "наменклатуры" адбываюцца не ад самой сістэмы вылучэння і бескантрольнасці кадраў, а ад варожых падкопаў. Прынцып гэты быў агульны. На шкоднікаў і ворагаў было зручна спісваць усе шматлікія праблемы, якія існавалі ў грамадстве. Перабоі з харчамі, траўматызм у вытворчасці, гадамі не вырашаецца жыллёвая праблема, а ў пабудаваных дамах людзям нярэдка нельга жыць з-за шматлікіх недаробак і браку — таксама шкодніцтва. Шкоднікі арудуюць у гандлі, які працуе вельмі кепска. Шкоднікі на транспарце — таму з рэек сыходзяць цягнікі і г. д. Увогуле, сталінскае кіраўніцтва шырока выкарыстоўвала няхітры, але досыць эфектыўны ў тых умовах спосаб маніпуляцыі грамадскай думкай: усё добрае — ад партыі, Савецкай улады і правадыра; усё кепскае — ад ворагаў і шкоднікаў.

Аднак у краіне было нямала людзей, і Сталін ведаў гэта, якіх цяжка было падмануць шкодніцтваманіяй. Яны ніадрэнна разбіраліся ў сапраўдным сэнсе сталінскай палітыкі, ведалі цану самому правадыру і ягонаму акружэнню, многае разумелі. Адной з яўных мэт масавых рэпрэсій была спроба знішчыць іншадумства і самую найменшую апазіцыйнасць.

Усіх, хто не быў слепа аддадзены правадыру, Сталін залічваў у патэнцыяльную "пятую калону". Туды ж аўтаматычна былі запісаны тыя мільёны камуністаў і беспартыйных, якія ўдзельнічалі ў апазіцыях, раскулачваліся, пераследаваліся ў свой час як "контррэвалюцыянеры" і "шкоднікі" ці былі звязаны з "ворагамі народа" сямейнымі або таварыскімі сувязямі. Такіх людзей было вельмі многа. У запісцы, якую Маленкоў падрыхтаваў напярэдадні лютаўска-сакавіцкага пленума для Сталіна, у прыватнасці, гаварылася: "Асабліва трэба адзначыць, што ў цяперашні час у краіне налічваецца больш за 1500000 былых членаў і кандыдатаў у члены партыі, выключаных і механічна выбыўшых у розны час, пачынаючы з 1922 года. На многіх прадпрыемствах засяроджана значная колькасць былых камуністаў, прычым часам яна перавышае колькасны склад партарганізацый, якія працуюць на гэтых прадпрыемствах".

Для кіраўніцтва краіны мільёны пакрыўджаных або пацярпелых былі ўжо гатовымі ці патэнцыяльнымі ворагамі.

Пра страх страціць уладу досыць шчыра расказаў у сваіх пазнейшых успамінах пра падзеі 30-х гадоў адзін з бліжэйшых паплечнікаў Сталіна — Молатаў. "1937 год быў неабходны. Калі ўлічыць, што мы пасля рэвалюцыі секлі направа-налева, атрымлівалі перамогу, то рэшткі ворагаў розных накірункаў існавалі, і пагражаючай небяспекай фашысцкай агрэсіі яны маглі аб'яднацца. Мы абавязаны 37-му году тым, што ў нас у час вайны не было пятай калоны. Бо нават сярод бальшавікоў былі і ёсць такія, якія добрыя і адданыя, калі ўсё добра, калі краіне і партыі не пагражае небяспека. Але, калі пачнецца што-небудзь, яны пахіснуцца, перакінуцца. Я не лічу, што рэабілітацыя многіх ваенных, рэпрэсаваных у 37-м, была правільнай... Наўрад ці гэтыя людзі былі шпіёнамі, але з разведкамі звязаны былі, а самае галоўнае, што ў вырашальны момант на іх надзеі не было". На думку Молатава, масавыя рэпрэсіі былі "прафілактычнай чысткай" без пэўных межаў. Галоўнае ў ёй — не ўпусціць ворагаў, колькасць бязвінных ахвяр — пытанне другараднае: "Сталін, памойму, вёў вельмі правільную лінію: няхай лішняя галава зляціць, але не будзе хістанняў у час вайны і пасля вайны".

Гэты матыў знішчэння "пятай калоны", абгрунтаванне рэпрэсій спасылкамі на наяўнасць затоеных ворагаў актыўна ўкараняўся ў грамадскую свядомасць і ў 30-я гады. "Для таго, каб напаскудзіць і нашкодзіць, — гаварыў Сталін на лютаўска-сакавіцкім пленуме, — для гэтага зусім не патрабуецца вялікая колькасць людзей. Каб пабудаваць Днепрабуд, трэба пусціць у ход дзесяткі тысяч рабочых. А каб яго ўзарваць, для гэтага патрэбна, магчыма, некалькі дзесяткаў чалавек, не больш. Каб выйграць бітву ў час вайны, для гэтага можа запатрабавацца некалькі карпусоў чырвонаармейцаў. А для таго, каб праваліць гэты выйгрыш на фронце, для гэтага дастаткова некалькі чалавек шпіёнаў дзе-небудзь у штабе арміі або нават у штабе дывізіі, здольных выкрасці аператыўны план і перадаць яго ворагу. Каб пабудаваць вялікі чыгуначны мост, для гэтага патрабуюцца тысячы людзей. Але каб яго ўзарваць, на гэта дастаткова ўсяго некалькі чалавек. Такіх прыкладаў можна было б прывесці дзесяткі і сотні".

Запалохваючы пры дапамозе "такіх прыкладаў" краіну, Сталін разлічваў не толькі ўзняць хвалю тэрору. Гэта быў выпрабаваны і даўно вядомы прыём умацавання аднаасобнай дыктатуры.

І, нарэшце, яшчэ адна акалічнасць зусім відавочна стымулявала сталінскую рэпрэсіўную палітыку: у савецкай эканоміцы ўсё больш і больш выкарыстоўвалася "танная" рабочая сіла зняволеных. У шырокіх маштабах пачалося гэта з канца 20-х гадоў.

Палітычныя мэты тэрору падмацоўваліся "гаспадарчым разлікам", і рэпрэсіі ў вачах правадыроў дзяржавы атрымалі дадатковае абгрунтаванне. І ў гэтым выпадку, несумненна, Сталін дзейнічаў свядома і з разлікам. Перад ім была мэта — канчаткова ўціхамірыць грамадства, стварыць магутную ваенную прамысловасць і стаць адзінаўладным дыктатарам гэтай найвялікай у свеце дзяржаўнай машыны. Да дасягнення гэтай мэты ён ішоў, не задумваючыся пра метады, не падлічваючы ахвяры, не адчуваючы самых малых дакораў сумлення.

Беспадстаўнымі з'яўляюцца тлумачэнні масавых рэпрэсій і выключнай помслівасцю Сталіна. Так можна было знішчыць (фізічна або палітычна) дзесяткі, сотні, тысячы, але не мільёны людзей. Вядома, знішчэнне ў такіх маштабах мела перш за ўсё яўна выяўленую палітычную накіраванасць. Рэпрэсіі насілі не вузкаасабісты і зусім не бессістэмны, а менавіта палітычны характар. Сталін быў перакананы, што яго ідэя класавай барацьбы з'яўляецца асноватворнай. Калі былі знішчаны класы памешчыкаў і капіталістаў, ён знайшоў яшчэ адзін "клас", які трэба было ліквідаваць, — кулацтва. Нарэшце, ліквідаваўшы яго і застаўшыся без яўных ворагаў, Сталін вынайшаў тэорыю, па якой яны павінны былі існаваць заўсёды.

Устаноўка на масавы тэрор узнікла ў апараце НКУС зусім не адвольна. Сігнал яму зноў быў пададзены рашэннямі лютаўска-сакавіцкага пленума ЦК ВКП(б) ад 5 сакавіка 1937 года. Сталін заклікаў адкінуць прэч гнілую тэорыю аб тым, што з кожным крокам наперад класавая барацьба павінна нібыта ўсё больш і больш затухаць.

Для эфектыўнага правядзення рэпрэсіўных акцый неабходна было стварыць адпаведную "грамадскую думку" шырокіх народных мас. Бо маса павінна была верыць (і ў значнай ступені верыла) у пачварныя абвінавачанні 1937 года. Сталін пашырыў паняцце "вораг народа". "Гэты тэрмін адразу вызваляў ад неабходнасці ўсялякіх доказаў ідэйнай няправаты чалавека або людзей, з якімі ты вядзеш палеміку: ён даваў магчымасць кожнага, хто ў нечым не згодны са Сталіным, хто быў толькі западозраны ў варожых намерах, на каго быў проста ўзведзены паклёп, падвергнуць самым жорсткім рэпрэсіям, з парушэннем усялякіх норм рэвалюцыйнай законнасці" (З даклада М. С. Хрушчова "Аб культе асобы і яго выніках" XX з'езду КПСС 28 лютага 1956 года).

Прычыну настрою мас, якія паверылі ў "ворагаў народа", можна растлумачыць некалькімі фактарамі. Перш за ўсё, дзейнічалі культавыя адносіны да "правадыра". Істотнае значэнне меў комплекс антыінтэлігенцкіх настрояў, і без таго дастаткова распаўсюджаны ў СССР, дзе інтэлігенты атаясамляліся з дваранамі, памешчыкамі і г. д. Але гэтыя настроі яшчэ і падаграваліся выказваннямі Сталіна, сфальсіфікаванымі працэсамі супраць "шкоднікаў" і г. д.

Дзейнічаў і досыць рэальны комплекс капіталістычнага акружэння: адсюль рабілася выснова, што вакол ворагі і "ўнутры" поўна іх агентуры. Вядома, быў даволі рэальны шпіянаж капіталістычных дзяржаў. Захоўвалася магчымасць дзеянняў з боку прадстаўнікоў контррэвалюцыйных палітычных груп і груповак, у асноўным былых эмігрантаў, якія дзейнічалі ў Францыі, Германіі, Турцыі і шэрагу іншых дзяржаў. Таму сцвярджэнні органаў НКУС аб існаванні контррэвалюцыйнага падполля ў СССР маглі аказацца праўдападобнымі.

У гэтых умовах фактычна была створана (і ў многім рукамі будучых ахвяр) такая палітычная абстаноўка, калі патэнцыяльная магчымасць масавых палітычных рэпрэсій — выключэнне з партыі, суд, а пры неабходнасці (або жаданні) і расстрэл — "вісела ў паветры". Патэнцыяльная магчымасць рэпрэсій рабілася рэчаіснасцю.

Хлусня органаў НКУС, хлусня друку, незлічоныя прамовы ў падтрымку "справядлівых прысудаў" стварылі сітуацыю, калі даведацца, у чым заключаліся прычыны падобнай вакханаліі, было амаль немагчыма. Менавіта таму сотні тысяч камуністаў і беспартыйных у 1937—1938 гадах галасавалі за выключэнне "ворагаў народа" з партыі і прыцягненне іх да крымінальнай адказнасці. Мільёны людзей на мітынгах і дэманстрацыях патрабавалі суровай расправы з "ворагамі народа".

Пасля такіх зваротаў органы НКУС паспяхова знаходзілі тысячы новых "ворагаў". Пры гэтым на суд і расправу многія нярэдка выдавалі не толькі сваіх учарашніх сяброў і таварышаў па службе, але і сваякоў. Што і казаць, большасць верыла Сталіну і органам НКУС. Былі, вядома, і тыя, хто сумняваўся, часцей за ўсё, калі гаворка ішла пра нейкія канкрэтныя выпадкі, але і яны маўчалі, аблягчаючы тым самым расправу над іншымі.

У 1937 годзе ЦК ВКП(б) і СНК СССР прынялі шэраг мер з мэтай узмацніць ролю органаў бяспекі, у прыватнасці, для супрацоўнікаў НКУС былі ўстаноўлены воінскія званні на тры ступені вышэй, чым у Чырвонай Арміі, аклады іх грашовага ўтрымання былі павялічаны адразу ў чатыры разы і значна перавысілі заработную плату работнікаў і служачых дзяржаўных устаноў.

*(Працяг на стар. 14-15)*

# Рукою майстра адмысловага

Цяпер, калі Міхася Стральцова няма сярод нас, імкнешся да самых драбніц успомніць усё, што звязана з яго жыццём і творчасцю. У памяці ўсплываюць першыя ўражанні далёкіх студэнцкіх гадоў, калі мы былі аднакурснікамі аддзялення журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна. З першых жа месяцаў вучобы выявілася, што Міхась Стральцоў, бадай, самы дасведчаны сярод нас у літаратуры, хоць, як і мы, жыў у вёсцы, вучыўся ў сельскай школе. Скажам шчыра, бібліятэкі, якімі мы карысталіся, былі вельмі бедныя, аб сістэмным чытанні не ішло і размовы. Міхась жа быў добра знаёмы з рускай класічнай, савецкай, замежнай літаратурай. Ведаў творы некаторых рэпрэсіраваных беларускіх пісьменнікаў, імёны якіх ніхто з нас і не чуў. Відаць, на яго сур'ёзнай падрыхтоўцы ў галіне літаратуры адбілася тое, што бацькі былі настаўнікі. Мяркую, гэта былі педагогі па прызванні, бо далі сыну вельмі многа, выправілі яго ў самастойны шлях з даволі важкім багажом.

На першым курсе амаль усе з нас грунтоўна заявілі аб тым, што мяркуюць пакарыць вяршыні не толькі ў галіне журналістыкі. У кожным пакоі па вечарах гучалі вершы, паэмы, апавяданні. Адзін з аднакурснікаў неяк прызнаўся: "Заканчваю раман". Кажуць, што сапраўды раман быў напісаны, але і да сённяшняга дня яго ніхто не прачытаў, і, відаць, ніколі ўжо не прачытае...

Стральцоў жа пра свае творчыя планы гаварыць не любіў. Ніхто не помніць, каб ён на вечарыне ці з трыбуны чытаў нешта сваё. Часцей бывала, калі з яго лёгкай рукі лісток з блакнота пускаўся ў вандроўку з аўдыторыі ў аўдыторыю, з пакоя ў пакой. Дасціпныя стральцоўскія эпіграмы і сёння помняць многія з аднакурснікаў. Яны змяшчаліся ў студэнцкім рукапісным часопісе "Бурбалкі", а большасць засталася ў нашай памяці.

З дачкой Веранікай. 1966 г.

Аднак сатырыкам ці гумарыстам Міхась Стральцоў не стаў: яму больш імпанавала сур'ёзная літаратура, аб чым сведчылі яго першыя апавяданні. Яны былі адразу заўважаны, высока ацэнены. Старэйшыя сабраты па пяры, сярод іх Янка Брыль, адзначалі ў апавяданнях маладога празаіка ўдумлівы погляд на жыццё, глыбокі псіхалагічны аналіз учынкаў герояў. Было заўважана, што М. Стральцоў добра адчувае выяўленча-пластычныя і эмацыянальныя магчымасці слова, з густам, дакладна перадае пачуцці людзей. Гэтыя каштоўныя якасці пісьменніка выявіліся ў яго першых зборніках апавяданняў "Блакітны вецер", "Сена на асфальце", аповесці "Адзін лапаць, адзін чунь".

Пакаленне, да якога належаў М. Стральцоў, нехта з крытыкаў назваў "філалагічным". Пазней узнікла і больш паэтычнае вызначэнне: пакаленне, апаленае вайной. Таму і не дзіўна, што дзіцячыя ўражанні, час ваеннага ліхалецця і вызначылі тэмы творчасці маладых пісьменнікаў. Не быў выключэннем і М. Стральцоў.

Вось адно з першых яго апавяданняў — "На чацвёртым годзе вайны". Аўтар глыбока пранікае ў псіхалогію нявесткі і свякрові, аб'яднаных агульнымі клопатамі, а яшчэ больш агульным горам — болем за мужа і сына, забітага на вайне. Тонка перададзены перажыванні бабулі, якая вінаваціць сябе за тое, што пагарачылася і адсцябала матузамі малога ўнука-сірату, калі ён, не дачакаўшыся вячэры, паабшчыкаў "акрайчык ацеслівага, спечанага з бульбы і ячменных шароек хлеба". І прыгадалася старой, што некалі яна гэтак жа несправядліва адсцябала і сына, які нядаўна загінуў на вайне.

Не менш тонка і дакладна прасочвае пісьменнік псіхалагічны стан хлопчыка, які чулым сэрцам здагадваецца пра глыбокія пакуты маці, бабулі і адчувае, што на свае дзіцячыя плечы ён павінен узяць нядзіцячую адказнасць, бо мяжа, якая аддзяляе малых ад дарослых, часовая, хісткая, умоўная. За дробнымі дэталямі ваеннага побыту, прыведзенымі ў апавяданні, паўстае многае — народная трагедыя і адначасова трываласць духу людзей у самыя цяжкія часы нашай гісторыі.

А вазьміце дзеда Міхалку з аповесці "Адзін лапаць, адзін чунь". Гэтым вобразам М. Стральцоў прапаведуе ўсё тую ж устойлівую праўду-думку пра нязломнасць народнага духу. Крытыкі заўважылі, што пасля з'явілася нямала такіх старых у творчасці пісьменнікаў — ад Валянціна Распуціна да Віктара Казько, Анатоля Кудраўца, Алеся Жука. Зразумела, кожны з іх стварыў свае, непаўторныя вобразы, але справядлівасць вымагае зазначыць, што М. Стральцоў быў адным з першаадкрывальнікаў.

Разважаючы пра час дзяцінства, "той ваенны і пасляваенны вопыт", пісьменнік падкрэсліваў, што гэта была незабыўная і па-свойму шчаслівая пара, нягледзячы на тое, што яна помніць жахі вайны, ведае смерць блізкіх, спазнала, што такое голад і нястачы, спазнала сіроцтва, але і яно шчаслівае — веданнем высокай цаны самога жыцця, шчодрасці чалавечага сэрца, веданнем таго, што побыт, самы просты і бедны, не ганьбіць чалавека, а, як ні дзіўна, часта ўзвышае яго, адкрывае ў ім "душы залатыя россыпы" — мужнасць, самаахвярнасць, прыгажосць учынку, спа-гадлівасць, дабрыню, адчуванне знітаванасці і еднасці з другімі людзьмі.

М. Стральцоў добра ведаў і класічную, і сучасную літаратуру, і не толькі савецкую, але і замежную. І ўсё ж з найбольшай увагай сачыў ён за развіццём беларускай літаратуры, актыўна выступаў у друку з літаратурна-крытычнымі артыкуламі. Высокая эрудыцыя дапамагала яму глыбока аналізаваць складаныя з'явы літаратурнага працэсу, выказваць свежыя, неардынарныя думкі, якія часам выклікалі бурныя спрэчкі. І гэта былі не застылыя па форме, традыцыйныя навуковыя трактаты, а вострыя палемічныя артыкулы, у якіх з'ядналася майстэрства публіцыста, мастака, літаратуразнаўцы. Ды і называць іх артыкуламі ў традыцыйным разуменні гэтага жанру нельга. Вялікае даследаванне-роздум "Загадка Багдановіча" пісьменнік назваў аповесцю, іншыя публікацыі па пытаннях літаратуры — эсэ.

Дарэчы, ужо ў дыпломнай рабоце, прысвечанай аналізу рамана "Сокі цаліны" толькі што рэабілітаванага Цішкі Гартнага, М. Стральцоў у значнай меры выявіў свае даследчыцкія здольнасці. Работа была рэкамендавана да друку і неўзабаве ўбачыла свет. Гэта была адна з першых публікацый аб творчасці пісьменніка, які стаяў ля вытокаў беларускай савецкай літаратуры. Упершыню раман Ц. Гартнага разглядаўся не з пазіцыі вульгарна-сацыялагічнай крытыкі, якая яшчэ ў 20—30-я гады вынесла аўтару неабгрунтаваны прысуд, а з пункту гледжання глыбокага, аб'ектыўнага, сумленнага і дасведчанага аналітыка.

Аб дыяпазоне творчых інтарэсаў Стральцова-літаратуразнаўцы, Стральцова-крытыка сведчыць хоць бы пералік імёнаў пісьменнікаў, творчасць якіх ён глыбока вывучаў і аналізаваў: Францішак Багушэвіч, Максім Багдановіч, Янка Купала, Якуб Колас, Максім Гарэцкі, Змітрок Бядуля, Цішка Гартны, Кузьма Чорны, Янка Брыль, Уладзімір Хадыка, Аркадзь Куляшоў, Пімен Панчанка, Аляксей Пысін, Рыгор Барадулін, Віктар Карамазаў, Анатоль Кудравец...

М. Стральцоў выявіў сябе па-сапраўднаму арганічным паэтам, надзеленым, акрамя ўласна-паэтычнага таленту, яшчэ і талентам ўзаемадзеяння з папярэдняй літаратурнай традыцыяй, пільнай да праяў нашага жыцця. За кнігу вершаў "Мой свеце ясны" М. Стральцову прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР імя Янкі Купалы за 1988 год (пасмяротна).

Такая высокая ацэнка заканамерная, бо паэзія М. Стральцова перш за ўсё моцная сваёй паяднанасцю з народным жыццём, лучнасцю з усім зямным.

Паэтычнаму дару М. Стральцова зусім не былі ўласцівы плакатнасць, павучальнасць. Чалавек з даволі значным жыццёвым вопытам не напрошваўся ў настаўнікі, не лез з павучаннямі. Ён не імкнуўся абсалютызаваць свой асабісты вопыт, а значыць, шырока, даверліва глядзеў на навакольны свет, ніколі не прымушаў сваю музу займацца тым, што ёй не ўласціва. У гэтым — сумленнасць, а значыць, і грамадзянскасць паэта:



*Міхась Стральцоў (стаіць у цэнтры) з бацькамі Лявонам Клімавічам і Марыяй Міхайлаўнай, сёстрамі Валянцінай, Таісай, Нінай і братам Міколам. 1953 г.*

***Я не скажу, што бачыў свет.***
***Але на моры і на сушы***
***Жывых людзей жывыя душы***
***У маёй пакінулі свой след —***
***То след гаючы, то балючы.***
***Ды чалавечае бяды***
***У час балючых з ёй заручын —***
***Куды найбольшыя сляды.***

Паэта прыцягваюць устойлівая раўнавага ў свеце, гармонія ў прыродзе. І ў гэтым яго прасветленым душэўным стане арганічна жыве любімы вобраз, адцяняючы псіхалагічны малюнак. Арыентацыя на чалавека-субяседніка, памочніка, друга і саўдзельніка ў жыццёвым клопаце і робіць вершы паэта як фактам жыцця, так і фактам мастацтва. Таму і прыйшліся яна даспадобы чытачам, набылі зваротную сувязь і дзейсны працяг у жыцці.

Лёс адвёў М. Стральцову ўсяго паўвека жыцця. Зразумела, засталіся не рэалізаванымі многія творчыя планы. Можна сказаць, што былі пастаўлены толькі вехі-арыенціры. Але яны даюць даволі поўнае ўяўленне аб асобе творцы — празаіка, паэта, крытыка. Яго спадчына, па-сапраўднаму яшчэ не ацэненая, вельмі высокай пробы.

**Уладзімір СКАПА**

# Шчыры, светлы, мужны...

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

•

...Ён быў чалавекам мужным, нават зацятым у сваёй мужнасці, калі бараніў тое, у што верыў, у чым быў перакананы. Але бараніў не дрынам, не кулаком, а шпагай — зброяй шляхетнай і рамантычнай, зброяй кавалераў Прыгожай Дамы.

**Валянцін ТАРАС**

•

У завулках старога горада, у размаітым людскім натоўпе, у жыццяпісах творцаў Міхась Стральцоў заўважаў свае знакі, якія станавіліся знакамі яго творчасці. І ўжо блізка ад яго, як надзвычайная вестка, праслізгваў човен Харона, цень ад весла якога ён не прыкмеціў. Ад яго патрабавалася адно — заставацца мастаком надалей, верыць свайму відушчаму пачатку — інтуіцыі, прымаючы ўмовы гульні, усё глыбей распазнаваць яе ўмовы, бо тое, што ў ёй загадвалася, і разгадку мела ў ёй самой...

**Алесь РАЗАНАЎ**

•

Часам мне здаецца, што ён нарадзіўся не жыць, а выглядаць смерць (у восеньскай смузе, у ціўканні сініцы, "у мінулым, сённяшнім, наступным"). Крэмзанне паперы "прозай" ці "вершамі" было ўсяго толькі адным са спосабаў (а можа, як для яго, то і адзіным) гэтай "не-магчымасці жыць". І ці не таму ён конгеніяльны, тоесны свайму скрушнаму лёсу (генію там, дзе ў яго адрэфлексавана развітанне, расстанне, кананне...

**Валянцін АКУДОВІЧ**

•

...Колькі ён пакутаваў з-за душы чалавечай — сваёй, чужой, — па вялікім рахунку, па дробязях... Дробязяў у людзях для яго не было. Ён умеў паспагадаць, суперажыць, усцешыць, зразумець... Інтэлігентнасць арганічная... Ніколі не стамлюся вымаўляць гэтае слова ў дачыненні да Стральцова.

**Уладзімір БОЙКА**

•

Быў. Ёсць. Будзе. Паэт, філосаф, празаік, эсэіст, крытык Міхась Стральцоў. Класічныя ўзоры майстэрства. Творчасць, дзе няма слотнай няўклюдзіцы слоў, цягамотных, раскілзаных сюжэтаў. Творчасць, у якой мы знойдзем лірычна-філасофскі водгук на жыццё, такое перажыванне светапарадку, што мае на ўвазе і надзейнасць класічных арсеналаў, векавых канонаў — і пазалагічна-мантажнае выяўленне ўражанняў, падзей, і ўменне знайсці новыя пошукава-некананічныя ўстаноўкі.

**Ала СЯМЁНАВА**

•

Ён умеў быць шчырым.

Не — ён быў шчырым. І іншым быць не ўмеў.

Няшчырасць — калі яна надаралася побач — была для яго пакутай. Насланнём. Нейкім глыбінным — слыхам? зрокам? — ён беспамылкова вычуваў крывадушша. Веданне гэта клалася віной на ягоныя плечы. Ён адчуваў сябе злачынцам, парушальнікам нейкай мяжы. Гэта было як віжаванне праз замочную шчыліну ці як корпанне ў чыёйсьці бялізне. Разумеючы недатыкальнасць таго, на што міжволі рабіў замах, ён не хацеў — гэтак. Бо недазволенае. Але дазвол быў дадзены — без яго згоды.

Ён адчуваў сябе рабаўнікам. Нясцерпнай была нават думка выказаць сваё веданне, паставіць у няёмкае становішча таго, перад кім — ужо — вінаваты. Для гэтага патрэбна была смеласць сцвярджаць справядлівасць доказамі, здабытымі ў чужых кішэнях. Ён такой смеласці не меў.

Думаю, гэта шмат у чым спрычыніла драму яго жыцця. Гэтым, здаралася, трымаліся побач людзі, відавочна неадпаведныя, нават варожыя: чым горшая праўда пра чалавека яму адкрывалася, тым большы доўг быў выстаўлены для аплаты. Выражаўся гэты парадокс праз усё жыццё. Часам праз арэлі настрояў у адносінах: ад раптоўнага выбуху раздражнення — да (літаральна праз хвіліну) ціхамірнай рахманасці. Ён быў шчыры ў сваім абурэнні, і шчыры — у сваёй вінаватасці.

Ён быў палоннікам.

Ён адчуваў болей, чым мог панесці. І не меў апірышча.

**Вераніка СТРАЛЬЦОВА**

ПРОЗА

***Сярод публікацый, якія з даўняга часу практыкуе "ЛіМ", напэўна, гэта будзе нейкі новы "жанр". Рыхтуючы для часопіса "Полымя" скарочаную версію рамана "Арляк і зязюля" (працяг "Явара з калінаю"), імкнуўся зрабіць яе цэласнай, без "швоў", каб нехта прачытаў усё-такі раман, а не "часопісны варыянт". У выніку давялося ахвяраваць не горшымі, наколькі аб гэтым можа меркаваць сам аўтар, фрагментамі, блізкімі да так званага ўстаўнога апавядання. Два такія сюжэты я і хачу прапанаваць увазе чытачоў "ЛіМа". У першым апавядае сам галоўны герой рамана памочнік ляснічага Іван Гаркуша; у другім — адстаўны чэкіст, які на працягу доўгіх год не выпускаў з-пад увагі "маўклівага дысідэнта" Гаркушу, расказвае пра свой візіт да першага кіраўніка рэспублікі.***

**Аўтар**

Мікола КУСЯНКОЎ

# ЖЫЎ-БЫЎ ГАРКУША



## ДЭТЭКТЫЎ З ЗАЛІП'Я

...Што адбылося. Я ў адпачынку, але час ад часу ў кантору заглядваю, і вось гаманю я ў сваім кабінеце з тэхнікам, хлопцам, што мяне падмяняў, а ў гэты момант пад акно жух — чорная "Волга". Спынілася, з яе вылазіць наш участковы Шульга, а з ім яшчэ нехта ў цывільным. Участковы мардаты, з тоўстай палявой сумкай, дык побач з ім гэты цывільны зусім ніякі, бо і ніжэйшы за Шульгу, і твар у яго някідкі, шараваты, і вусікі такія ж шараватыя, а скураная чорная папка ў яго чорная, можа, дзве-тры паперыны ў ёй — такі інтэлігент. Але што мяне адразу насцярожыла — клятчастая кепка.

Немалады ўжо мужчына, такі, як я, а кепка, як у піжона, — дальбог, не ягоная. Ды я так падумаў і адразу ж забыў. Бо Шульга ўжо ўваліўся ў кабінет, а ўслед за ім нішкам увайшоў і цывільны. Так, пра кепку я забыў, але цяпер мне здалося, што гэтага цывільнага я ўжо недзе бачыў. Але ж вітаемся, і Шульга кажа, ты, маўляў, выгульваешся, а ў тваім лесе, у Глухім лагу, браканьеры лася ўгрохалі, дык вось мы і вядзём следства, бо во гэта (паказвае вачамі на цывільнага) акурат і ёсць следчы з раённай пракуратуры, а прыехалі мы да цябе, каб ты падказаў, як нам трапіць на след злачынцаў. Слухаю Шульгу, а сам думаю: дзе я ўжо бачыў гэтага следчага? І вось хоць вер, хоць не вер, западозрыў я нешта няшчырае, здалося, яны прымаюць мяне за такога, знаеш, лапушка, які ўсяму, што яму ні скажуць, адразу ж і паверыць. Следчы з раённай пракуратуры? Нешта не помню, каб яму надта забітыя ласі рупілі, хлусіце хлопцы, ды знайце меру! А што Гаркуша ведае, як злавіць браканьераў, тут вы як у ваду глядзелі.

Гэтаму мяне навучыў колісь стары Мікалайка. Народная мудрасць. Праўда, самому мне ніколі не даводзілася праверыць яе на практыцы, бо тут ёсць адна нязручнасць: трэба, каб той скрытны браканьер апынуўся ў якой-небудзь талацэ ці проста на нейкім людскім зборы. Дык я тут жа прыкінуў дый кажу сваім гасцям: "Бачылі, на краме ў Грабянцах вісіць аб'ява — заўтра агульны калгасны сход. Калі вас туды пусцяць, вазьміце з сабою і мяне, сядзем ціхенька ззаду і будзем назіраць. А калі сход скончыцца, я вам скажу, хто забіў сахатага". Гляджу на Шульгу, на цывільнага, нешта ім не падабаецца, так і ёсць, не ў галаве ім лось, ехалі, каб вынюхаць нешта іншае. Ды пачалі гаворку — і папаліся. Бо цяпер што яны скажуць — перадумалі лавіць браканьераў? Не, хлопцы, хацелі, каб я вам памог, дык я і памагу — выведу на чыстую ваду злыдняў, бо гэта тое, што і мне трэба, адзін я ў лесе не воін, а калі такая морда, участковы, ды следчы раённай пракуратуры... Яны пераглянуліся, цывільны ледзь заўважна кіўнуў галавою, маўляў, згаджаемся — Шульга аж закрактаў ад прыкрасці.

Назаўтра, пад вечар, забірае мяне іхняя "Волга" і вязе ў Грабянцы. У клубе вось-вось пачнецца сход, а гэта ж не тайны нейкі збор, дык гляджу, а яны ўжо сядзяць на заднім радзе, Шульга і цывільны, адно месца мне трымаюць. Вось, думаю, і цудоўна. Павітаўся, сеў і слухаю, пра што на сходзе гаворка. Пра жніво, пра раздзельны спосаб уборкі, пра дысцыпліну, пра эканомію гаручага. Шульга побач нервуецца, непакоіць яго, што, пакуль ён тут час марнуе, злачынцам раздолле недзе. Не ўцярпеў, пытае: "Ну, хто лася забіў? Яшчэ не ўнюхаў?" А я яму шэптам: "Не цяпер. Вось як сход скончыцца, выйдзем, там і скажу". Шульга прамычэў нешта, расшпіліў каўнер, яму горача: "Піўца б, Гаркуша, га?" Нарэшце сход скончыўся. Усе ўсталі, Шульга рагатнуў, маўляў, ну і жартаўнік ты, Гаркуша. Краем вока заўважаю, што недаверліва пазірае на мяне і следчы, але чакайце, думаю, зараз будзе самае цікавае, толькі трэба ўважліва назіраць. Але ж гэты Шульга! Прасоўваюся за ім па вузкім праходзе ўздоўж сцяны, а каб убачыць што-небудзь уперадзе, трэба ці не падскочыць, бо высокі, халера, і плечы ўшыркі з метр. Ды тое-сёе змеціў. Шульгу даймала смага, дык нарэшце ён і параўняўся з бачком, гэта ўжо недалёка ад дзвярэй, нахіляецца, павярнуў кран, вада цурчыць у карэц, а ён на ланцужку, і Шульга мусіў ладнага прысесці ў каленях. Выходзім з клуба, Шульга злы, як сабака: "Якога хрэна ты нас за нос водзіш, кажы, хто твае браканьеры!" А я адказваю: "Не спяшайся, гэта толькі пачатак. Браканьераў трое. А хто яны, я скажу вам заўтра. Пад'язджайце а дванаццатай гадзіне, і я прывяду вас у хату да аднаго і другога, а наконт трэцяга глядзіце самі". Заўважаю, як прыдзірліва пазірае на мяне следчы, яму я не падабаюся; можа, думае, што я з іх здзекуюся, але відаць, што ён мне верыць больш, чым Шульга. "Прапанова прымаецца, — кажа следчы, — заўтра дык заўтра. Так і дамовімся — а дванаццатай гадзіне".

Так, я рызыкаваў, бо скажу яшчэ раз: Мікалайкаву тэорыю я не правяраў на практыцы, але мяне разабраў азарт, і дзейнічаў я смела, можа, нават адчайна. Назаўтра зноў прылятае па мяне "Волга", вязе ў Грабянцы, а яны, Шульга і следчы, чакаюць мяне ля сельсавета. Кажу ім: "Сядайце", камандую шафёру, куды ехаць. З галоўнай вуліцы павярнулі да Ліпы, у кароткі завулак. Стоп! Вось тут, кажу, мы і вылезем, бо адзін з браканьераў — Пятро Хамянок, вось ягоная хата. За мной!" — "Ты што, — узбунтаваўся Шульга, — лепшы калгасны шафёр — браканьер? Ты ведаеш, што будзе табе за паклёп? Дый хто табе даў права ўрывацца ў чужое жыллё? Яно недатыкальнае!" Канечне, калі б я ведаў законы так, як Шульга, дык, можа, і не ламаўся б у чужую хату так нахабна. А то ж пастукаўся, ды так моцна, што ў перапалоханай гаспадыні, мабыць, адняло мову — толькі ротам паветра хапае! А я іду напралом: "Сустракай гасцей, гаспадыня! Пакуль чалавека твайго няма, дык пачастуй нас, бо паўлітра — во яна, а закусіць няма чым... Заходзьце, заходзьце! — гэта я ўжо да Шульгі і следчага, бо нешта яны топчуцца ў сенцах, ніяк парог не пераступяць. І зноў да гаспадыні: — Паўлітра — во яна (а я такі і праўда захапіў з дому пляшку і цяпер прыстукнуў донцам аб стол), ну а што там у вас у печы, напэўна, тое, што і ў Восіпа Супруна? Смялей, смялей, гаспадынька, даставай чыгунок!.. Ах, як смачна пахне! Упрэла. З цыбулькай. — Я ступіў да печы і нахіліў засланку верхам да сябе. Так, як і ў Восіпа. Праўду ягоная баба казала, падскоч да Хамянка, не горш пачастуе... Сядайце, хлопцы, за стол, — гэта я зноў да Шульгі і следчага, — вы ж бачыце, як радая нам гаспадыня!"

Зірнуў на гаспадыню — яе вочы і моляць, і праклінаюць. "Які ж ты ірад, — вымавіла нарэшце, — душыў цябе Айчанаш, ды не дадушыў. Наце, жарыце!"

Пакуль яна даставала з печы мяса, ля двара спыніўся самазвал — прыехаў на абед гаспадар, Пятро Хамянок. Для яго было вялікай нечаканасцю, што ў хаце столькі гасцей. Яму таксама адняло мову, калі ён убачыў, як жонка вываročвае ў талерку ласяціну. І нават тое, што на стале ў нас стаяла пляшка, не надало яму бадзёрага настрою. Бо яшчэ і жонка як не галосіць: "Гад паўзучы, во ён хто ў цябе, твой Восіп! Цябе, дурнога, падвучыў, дый на цябе першага паказаў пальцам! Такія ў цябе хаўруснікі, толькі б тваю гарэлку жлукціць! Мый рукі ды сядай, можа, як-небудзь яшчэ ўгаворыш, людзі ж яны, а не звяры лясавыя!.."

Не, гаспадар не збіраўся мыць рукі, са сціснутымі кулакамі ён грозна рушыў да стала: "Гэта я іх буду ўгаворваць? Каго — во гэтую морду? — З усёй кампаніі ён вылучаў аднаго з нас — Шульгу. — Ах ты, сука лягавая, паршывы мент, хіба не сам ты нас і падбіў — абараню, калі што якое! А хіба не табе мы сцягна не пашкадавалі? Інтэлігент задрыпаны, бясхвостай курыцы і той няма ў двары! У мяне ў хляве вепрука ногі не трымаюць, дык пляваў я на гэтую дыхляціну, цэлы дзень прэе, а ўсё роўна адно сабакам выкінуць!" — "Гэта правакацыя! — грукнуў кулаком па стале Шульга. — Я пратэстую! Гэта ўсё ён, караед заліп'янскі! Чаго ён са сваім паршывым ласём да нас прычапіўся?" Ну, гэта ўжо, думаю, нахабства. Як быццам не ён да мяне прыехаў у кантору, а я да яго. Ды нарэшце азваўся і следчы: "Спакойна, таварыш капітан. Я думаю з гаспадарамі вы тут разбярацеся самі, а нам з Іванам Адамавічам трэба адлучыцца. Прашу вас, Іван Адамавіч".

Вядома, следчы раённай пракуратуры большы начальнік, чым участковы, але я ўжо разумеў, што гэты цывільны больш чым следчы. І ў мяне ўвесь час круцілася ў галаве: дзе я яго бачыў? Мы выйшлі, селі ў машыну і выехалі на шашу. Так, толькі выехалі, бо адразу і спыніліся. Вылезлі, перабрылі пясок за шашою, увайшлі ў кучаравы сасоннік. У ім каля заліп'янскай дарогі леснікі нядаўна змайстравалі прыгожую альтанку, да яе і прывёў мяне гэты нібыта следчы.

Селі пад гонтавым дашкам, і тут ён у мяне пытае: "Ну, а ўсё-такі, як вы ўгадалі, хто забіў лася? Я ўвесь час быў з вамі ў клубе, а нічога не заўважыў". А я яму і адказваю: "Усё вельмі проста. Вы памятаеце, у клубе стаяў бачок з вадою. Бруду на ім у палец, і карэц на ланцужку, таму не кожны кінецца з яго піць. Але той, каго даймае смага, каму прыпячэ, — не пагідзіцца! А паліць смага таго, хто нажэрэцца дармовай ласяціны, — гэта мне колісь казаў стары Мікалайка. Дык вось у клубе пасля сходу гэтыя трое якраз і збівалі з ног іншых, каб хутчэй дапасці да бачка з вадою, — Супрун, Хмянок і ўчастковы Шульга. Вось і ўвесь сакрэт".

Тлумачу, а сам заўважаю, як непрыязна пазірае на мяне следчы, а калі я змоўк, ён і кажа: "Так, вы сапраўдны..." І вось тут ён называе... ёсць такі сышчык — па тэлевізары паказвалі... англійскі сышчык... — "Шэрлак Холмс", — падказаў я Гаркушу. "Правільна, Шэрлак Холмс". Так ён і кажа: "Вы сапраўдны Шэрлак Холмс. — І, не зводзячы з мяне акурат варожага позірку, дадае: — Сур'ёзны вы працаўнік, Гаркуша".

## НА ПРЫЁМЕ Ў ПЕРШАГА

Я ўзяў адпачынак і прыехаў у Мінск; тут, у Чыжоўцы, жыве мой брат, таму я мог дазволіць сабе такую раскошу — чакаць, калі ён нарэшце мяне прыме, наш Першы. Канечне, да мяне прынюхваліся, хто я і што, і чаму мне трэба абавязкова да самога Першага, але ж я чалавек з органаў — не могуць жа яны гэтага не разумець! Словам, адчыніліся перада мною высокія дзверы. Уваходжу ў кабінет, а на тое ён і Першы сакратар ЦК, што ў яго тут хоць гуляй у футбол: недзе далёка-далёка ён устае з-за стала, а ты ідзеш хвілін пяць, ну не пяць, гэта я перабольшваю, але прыдумана хітра: ён цярпліва стаіць і чакае, доўга чакае — такое псіхалагічнае на цябе ўздзеянне, маўляў, бачыш, які жаданы ты ў гэтым кабінеце. Трымаю бадай што страявы крок, толькі на мяккім дыване ён нячутны, збоку ў мяне доўгі, бясконцы стол, пад яго падсунуты незлічоныя крэслы, але адлегласць да Першага сакратара ЦК усё меншае, і чым бліжэй я да яго падыходжу, тым пільней і ўважлівей ён сваімі бацькоўскімі вачамі да мяне прыглядаецца. Першы намнога вышэйшы за мяне, таму, падаючы мне руку, ён яшчэ і трохі нахіляецца — акурат кланяецца. Яму, канечне, далажылі, што я іду да яго з нейкай таямніцаю, таму і ён, быццам асцерагаючыся, што нас нехта пачуе, паказвае рукою на канец доўгага стала і ціхім змоўніцкім голасам запрашае: "Калі ласка, сюды". Заходзіць ад сцяны і садзіцца, мабыць, на трэцяе крэсла, а мне зноў паказвае, каб я сеў насупраць, з другога боку.

Вядома, я заўважаў, што яго таямнічасць прытворная, гэта была ягоная гульня, іронія: ну як жа, ён — усімі прызнаны мудры кіраўнік, а тут нейкі палкоўнік дзяржбяспекі прыйшоў з карыснай парадаю, як яшчэ лепш ён мог бы кіраваць сваім народам. Але ён быў для мяне такім вялікім аўтарытэтам, што ягоная няшчырасць здалася мне спачатку найвышэйшай шчырасцю. Таму і сам я горача і шчыра пачаў выкладваць яму сваю тэорыю, а ён усё выразней прыжмурваў вочы, і я падумаў, што гэтак сваёй пераканаўчай гаворкаю я завалодваю ягонай увагаю. Ды не, мабыць, не надта ён услухоўваўся ў мой даверлівы маналог, бо раптам спытаў: "Як, як вы сказалі? Трэба ведаць, пра што маўчыць народ? Гэта і праўда нешта новае. Але чаму ён павінен маўчаць? У нас жа свабода слова!" Адчуваю, мяне трохі кінула ў пот. "Усё гэта так, — кажу, — у нас дэмакратыя і свабода слова, але ж сказаць можна тое, што не пярэчыць нашым ідэям, а супраць жа ніхто нічога не скажа!" — "Ажно так? — здзівіўся Першы. — Вы кепска думаеце пра свой народ. Па-вашаму, ён трымае за пазухай камень? Ну і супраць каго — супраць свайго, самага справядлівага ў свеце дзяржаўнага ладу?... У нашага народа няма падстаў выступаць супраць сябе самога, узводзіць паклёп на свае ўласныя заваёвы, таму, карыстаючыся вашай тэрміналогіяй, скажу: вось пра гэта ён і маўчыць. Зразумела, у сям'і не без вырадка, але нашым беларускім народам можна ганарыцца: адзін паршывы дысідэнт на дзесяць мільёнаў — нейкі Кукабака, ну яшчэ Быкаў ды Карпюк". — "Усё так, — я зноў як быццам і не пярэчу яму, але ж і гну сваю лінію. — Але ўсё-такі галоўная небяспека нашаму дзяржаўнаму ладу зыходзіць ад народа, а не ад інтэлігенцыі. Канечне, калі Быкаў напіша свой чарговы пасквіль, яму трэба даваць адпор; калі Карпюк бэсціць з нейкай трыбуны нашых кіраўнікоў і гэта разыходзіцца па ўсёй рэспубліцы, яго таксама трэба паставіць на месца; калі ў дзяржаўным універсітэце студэнты звілі нацыяналістычнае кубло, іх трэба рашуча раскідаць па абласных інстытутах — у нас у Гомелі адзін такі давучваецца. Але ўсё ж інтэлігенцыя, за выключэннем, можа, Быкава, хутка загараецца, але яшчэ хутчэй астывае, таму на вашым месцы я ўсё-такі больш увагі ўдзяляў бы народу. Паверце, гэта так: часта ён гаворыць не тое, што ў яго наўме, таму ў нашай рабоце найперш трэба ўлічваць, пра што маўчыць просты народ, бо ягонае маўчанне, калі не зрабіць прафілактычных захадаў, можа выбухнуць з каласальнай сілай". — "Што

*(Працяг на стар. 12)*

## Шчырасць

**У Палацы мастацтваў адбылася выстава магілёўскага акварэліста Фёдара Кісялёва. Дзякуючы свайму таленту, тонкаму адчуванню прыгожага ён здолеў паказаць паэзію будзённасці: няхай гэта шэрая вуліца Магілёва, сумны восеньскі лес ці маленькая рачулка.**

**Мастак не імкнецца перадаваць аб'екты з фатаграфічнай дакладнасцю. Галоўнае для яго — расказаць пра свае ўражанні ад убачанага; аўтар прапускае ўсё скрозь уласную прызму, тым самым прыадчыняючы для гледача заслону, за якой знаходзіцца ўнутраны свет мастака — эмоцыі, уражанні, перапады настрою.**

**Творы Ф. Кісялёва па колеравасці, тэматычнасці, меланхалічнай настроенасці быццам не адпавядаюць, так бы мовіць, традыцыйнаму нацыянальнаму спакою, "разважлівасці", пяшчоце. Зыходзячы з шырокіх магчымасцей акварэлі (а іменна ў ёй Ф. Кісялёў і працуе), яму ўдаецца ператвараць аркушы паперы ў надзвычай тонкія па колеры паэтычныя старонкі. Мы бачым перацяканне святла і ценю, мяккую замену строгіх прапорцый далікатнай дэфармацыяй і перастаноўкай — калі гэта архітэктурны матыў, плаўныя колеравыя пераходы, размытыя абрысы — калі гэта ландшафтны пейзаж.**

**Ф. Кісялёў таксама працуе ў жанры нацюрморта, у якім дасягнуў значных поспехаў, і там, у звычайнай рэчы, як і ва ўсім наўкола, ён умее бачыць прыгажосць.**

**І ўсё ж галоўная тэма яго творчасці, матыў, які мастак пастаянна распрацоўвае і вар'іруе, — прырода. Яна для Ф. Кісялёва — невычэрпная крыніца натхнення. Для ўвасаблення яе вобразаў, перадачы найтонкіх нюансаў настрою ў прыродзе мастак знаходзіць свае аўтарскія тэхнічныя прыёмы.**

**Прырода заўсёды шчырая. Шчыры і мастак — перад самой прыродай, перад сабой і перад гледачом.**

**Алена ПЛЯШЭВІЧ**

## Вядомы не толькі ў Беларусі



**Дзяржаўны ансамбль танца Рэспублікі Беларусь ашчадна захоўвае і ўзбагачае фальклорныя танцавальныя традыцыі беларускага народа. Створаны амаль сорак год таму, ансамбль ужо шмат гадоў з'яўляецца вядучым харэаграфічным калектывам рэспублікі.**

**У яго праграме — традыцыйныя беларускія танцы і жанравыя кампазіцыі, а таксама танцы народаў, якія жывуць на Беларусі. Майстэрству танцораў ансамбля апладзіравалі ў Кітаі і Францыі, Італіі і Іспаніі, Германіі і Бельгіі. За апошнія дзесяць гадоў з беларускімі танцамі пазнаёміліся гледачы больш за сорак краін свету. Відовішчныя, тэмпераментныя выступленні ансамбля зачароўваюць гледача дзівоснымі, маляўнічымі касцюмамі, прыгожымі мелодыямі, амаль класічнай харэаграфіяй, віртуознымі трукамі, іскрыстым азартам выканання кожнай кампазіцыі.**

**Кіруе ансамблем заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь Валянцін Дудкевіч, 35-годдзе творчай дзейнасці якога калектыў адзначыў вялікім канцэртам у Белдзяржфілармоніі.**

*На здымку: артысты вітаюць свайго кіраўніка Валянціна Дудкевіча.*

*Фота Мікалая ПЯТРОВА, БЕЛТА*

# Роблена ў Беларусі

***Пры канцы леташняга года рэкламіст Аляксандр Шавялевіч апавядаў на нашых старонках пра свой самы душэўны праект. Або пра тое, як рэклама можа спрыяць краіне, утвараючы яе вобраз. Праект не толькі ажыццявіўся, але і займеў прызнанне.***

### МЛЫН МАСАВАЙ СВЯДОМАСЦІ

— Дарэчы, пасля матэрыялаў у "ЛіМе" я проста пастанавіў: прывязу ўзнагароду... — Аляксандр відавочна задаволены. — І прывёз. З VI Маскоўскага фестывалю рэкламы. Поспех нам забяспечыла пакаванка, пакеты для сыпкіх прадуктаў. На прыкладзе гэтых пакетаў мы можам паказаць усім (і тым, хто заказвае, і тым, хто робіць), што самае найгалоўнае ў рэкламнай справе — ідэя. І перамога нашай пакаванкі — не адно перамога мастака, шрыфтавіка або тэкставіка. З нашым заказчыкам, АТЭКСам, мы памеркавалі і вырашылі: наша пакаванка мусіць быць беларускай. Шмат калег саромеюцца пісаць "зроблена ў Беларусі" (а часам і зусім аддаюць перавагу англійскай). Пра нашы пакеты ў любой краіне свету можна сведчыць: беларускія. Мы вырашылі адшукаць у спракаветным жыцці беларусаў побытавыя сітуацыі, звязаныя з прадуктамі, якія мы пакуем. Як, скажам, прывозіўся, выкарыстоўваўся, захоўваўся рыс. Як беларус смакаваў цукар. Як ужываў муку. Папярэдзе — выява, на адваротным баку — апісанне. Плюс старадаўні і рэдкі (але прыдатны) рэцэпт стравы. Дзеля яго, рэцэпту, з'аўрэлі не адзін раз, бо шукалі ж, вядома, не ў "Книгах о вкусной и здоровой пище"...

На мучным пакеце — выява млына. У любой краіне свету на пакеце з мукой малююць млын, але заўжды — вятрак. Выявілі б мы вятрак — можна было б падумаць, што мука з Галандыі або з Іспаніі. Затое вадзянога млына на пакетах вы не знойдзеце нідзе, акрамя як у нас! Мука пакуль з-за бізнесавых разлікаў марудней за рыс ды цукар пасоўваецца да рынку, але пасля таго, як з'явіцца і да пакаванкі прызвычаяцца пакупнікі, наш вадзяны млын з млынаром цвёрда атаясаміцца з Беларуссю. Мусіць спрацаваць так званае масавае, стэрэатыпнае, шаблоннае мысленне (кшталтам таго, як назва ксеракс ужываецца і для машын, і для папер, і для працэсу), — вадзяны млын быў паўсюль у Еўропе. Але ніхто яго пакуль што не скарыстаў, не давёў да агульнага ўспрымання. Цяпер млын масавай свядомасці перамеле нашу ідэю. Скажам, на мучны пыл нашае вядомасці.

Гравюры выканаў Уладзімір Пашчасцеў, стылізаваў іх пад старажытныя. Нялішнімі сталіся і звесткі пра тое, з якога года і як з'явіліся, скажам, млыны на Беларусі, як працавалі й будаваліся, а да ўсяго — рэцэпт смачнай булкі. Або дзе з'явіўся першы цукровы завод. А цукар выпускаўся у т. зв. цукровых галовах, рэзаўся адмысловымі разакамі, прадаваўся ў ятках (на гравюры Пашчасцева мужык частуе дзіця драбком цукру). Цяпер робім пакет з грэчкаю. Дарэчы, думалі мы пра папяровыя пакеты, але сумесна з Таварыствам спажыўцоў апыталі спажыўцоў: ім больш даспадобы празрыстая пакаванка круп. А іншых сыпкіх прадуктаў — папяровая.



Ужо ў Маскве карэспандэнты, праўда, нешматлікія, пачыналі свае пытанні з аднаго: маўляў, як гэта заказчык прыняў нашу ідэю. Я зразумеў, што гэта ў нашай справе — не апошняе, а мо і першае, і таму ўдзячны АТЭКСу за ўсё, што ён у нас... прымае. А калі па шчырасці, дык нашы ідэі — агульныя: Барыса Грубнова, Сяргея Сацэнкі (кіраўнікі кампаніі АТЭКС)... Працуем так даўно, што разумеемся адметна. Агучыў ідэю я, Аляксандр Шавялевіч, гравюры Уладзіміра Пашчасцева, ілюстравалі Руслан Азарын і Сяргей Скрыпнічэнка, прадзюсер — Валерый Клімчанка. Дапамагалі Міхась Раманюк і Сяргей Тарасаў... Але каб сутыкнуцца з вялікімі праблемамі, трэба было, як у нашай задуме, шукаць старажытныя звесткі, даведкі ды рэцэпты. Нам браліся дапамагаць... увогуле. Хоць, здаецца, што яшчэ можа хутка, дасціпна, папулярна распавесці пра Беларусь? Што, як не пакет з мукой, рысам, цукрам? Яны ж трапяць у кожную сям'ю. Хіба не цікава дзецям збіраць такія маляўнічыя пакецікі і чытаць, што на іх напісана? Мяркую, гэтыя пакеты — пакуль што самае лепшае, што я зрабіў, стварыў ды распаўсюдзіў. Хто ведае, можа менавіта гэтыя беларускія пакаванкі — самае адметнае ў нашым выпадку спалучэнне творчасці і прыбытковай справы? Валодзя Пашчасцеў жартаваў, маўляў, ніколі не думаў увайсці ў кожны дом. Дарэчы, менавіта Валодзя, адклаўшы мастакоўскі рыштунак, па сваіх гістарычных даведніках шукаў інфармацыю, — той самы цукровы разак або шаян, у якім рыс захоўвалі. З меркаванняў бізнесу тэксты зроблены па-руску, але беларускі варыянт трымаем напагатове...

### АБЛІЧЧЫ РЭКЛАМЫ

Праект рыхтавалі да VI Маскоўскага фестывалю рэкламы. Пазніліся. Шчыра? Я не сумняваўся, што пераможам. Калі на другі дзень фестывалю экспазіцыю друкаванай прадукцыі асталявалі ў Цэнтры міжнароднага гандлю (закрытага для шырокай публікі яшчэ два гады таму), дык віселі толькі нашы работы. З усіх пакаванак! Нам далі другое месца, — з тым, што першае ў нашай намінацыі не далі нікому. Ёсць меркаванне (яно належыць самім расіянам) — таму, што мы — не маскоўскае агенцтва. Але, з другога боку, у конкурсе відэаролікаў гран-пры аддалі кіргізам... У мінулым лімаўскім інтэрв'ю я быў прадстаўлены больш як рэжысёр, цяпер буду як пакавальшчык, а я — рэкламіст, я мушу аб'яднаць шмат якія прафесіі ды сваю абазнанасць у іх. А лістападаўскі Маскоўскі фестываль — самая вялікая падзея ў свеце рэкламы на тэрыторыі СНД. Тры конкурсы: відэа, друкаванай і радыёрэкламы. У кожным конкурсе свае намінацыі. У друкаванай — шэсць, у радыё — чатыры. Журы — без сумніву міжнароднае. Канкурэнцыя ў нашай намінацыі — нізкая. На жаль, не таму, што хтосьці штосьці забыўся выставіць або да Масквы не даехаў. Гэта — крэатыўны фестываль, значыць, перамога не той, хто друкуе на бліскучай дарагой паперы і па-англійску, а той, хто прапануе адметную ідэю. Праз тры дні я апынуўся на выставе "Рэклама-96" і ўбачыў неверагодную колькасць фірмаў і аб'яў, што яны знойдуць, надрукуюць і распрацуюць... Але ёсць пяцьдзесят заводаў, што выпускаюць карамель. Кожны — карамель "Калінку-малінку". Пяцьдзесят заводаў загортваюць свае карамелькі ў паперчынкі з выяваю... той самай калінкі або малінкі. І розніца толькі ў тым, ці ёсць пры той малінцы лісток, кропачка або рысачка. І ніхто не вызначыць, дзе карамелька гомельская, а дзе маскоўскай фабрыкі імя Бабаева. Рыхтык як у нас за саветамі калісь уся адрознасць рысавых або цукровых пакетаў была ў штампах. На беларускіх — "белбакалея" на ўкраінскіх — "укрбакалея"... Цяпер, здаецца, вазьмі ды прыдумай! Мала хто прыдумвае. Нават самыя вядомыя дызайнерскія студыі, на жаль, не заўжды патрапяць прыдумаць...

Маскоўскі фестываль прапанаваў нам шмат семінараў па ўсіх пытаннях, якія толькі могуць узнікнуць у рэкламнікаў. Прэзідэнт фестывалю — Ігар Янкоўскі. Арганізатар — Расійская асацыяцыя рэкламных агенцтваў. Самы экстравагантны семінар называўся "Тры абліччы рэкламы", які прадстаўляў яе ў абліччах трох адметных рэжысёраў-рэкламнікаў — Грымава, Чывважэўскага і Бубнава. Сустрэча з імі, бадай, была выбітнаю прэс-канферэнцыяй. Паміж усяго, на што яны зважалі і звярталі ўвагу — парада друку рабіць націск на тое, што расійскі рынак рэкламы і сёння яшчэ расійскі! Нягледзячы на неверагодную ўпартасць замежных агенцтваў! Гаворка, натуральна, не пра тое, на якой мове і што паказваюць па тэлевізары, а пра тое, хто гэта робіць. Беларусы, адпаведна, мусяць пільнавацца. Калі меркаваць паводле канчатковае прадукцыі і па тым, як кожны сябе рэкламуе, дык буйных і моцных (канкурэнтаздольных) агенцтваў у поўным сэнсе слова ў нас няма. "Студыя Крынь" імкнецца такім зрабіцца. У Маскве іх шэсць...

# Прыклад "вольнага" мастацтва

У шэрагу зімовых канцэртаў, якія прапанавала сталічная філармонія, прывабіў увагу канцэрт заслужанага артыста Беларусі лаўрэата Рэспубліканскага і Міжнароднага конкурсаў спевака Івана Тамашэвіча і народнага ансамбля Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі пад кіраўніцтвам Яраслава Валасюка.

Гэта не першы прыклад садружнасці ансамбля і спевака. Іх плённае супрацоўніцтва працягваецца з часу арганізацыі ансамбля ўвосень 93-га года. Шмат выступалі і ў Мінску, і па ўсёй Беларусі. Запомнілася паездка ў Прымор'е, дзе ў верасні пазаміналага года сусветная грамадскасць адзначала 50-годдзе заканчэння другой сусветнай вайны. Мноства канцэртаў далі тады мінчане: на велізарных акіянскіх ваенных караблях, на далёкіх пагранзаставах, у гаспадарках Прымор'я і ў яго сталіцы — Уладзівастоку. Цёплымі былі сустрэчы з землякамі, якіх лёс закінуў у тыя далёкія мясціны і чые сэрцы асабліва кранала беларуская песня.

Нягледзячы на сваю адносную маладосць, ансамбль ужо добра вядомы, бо граюць у ім высакакласныя спецыялісты: цымбалістка Аксана Бурава, дамрыстка Кацярына Пракопчык, баяніст Уладзімір Турбо-Новік і інш. Ды што выкладчыкі — сам дырэктар вучылішча Валеры Башура віртуозна грае на кантрабасе і вельмі імпазантна выглядае з гэтым інструментам! З ансамблем лічаць за гонар спяваць вядомыя беларускія артысты: Фёдар Севасцьянаў, Аляксандр Тузлукоў і інш. Большасць твораў з сумеснага са спевакамі рэпертуару запісана на Беларускім радыё.

Добрай якасці запісаў спрыяюць і высокапрафесійныя аранжыроўкі, якія стварае кіраўнік калектыву Яраслаў Валасюк. Ён не проста музыкант, добры выканаўца-дамрыст, таленавіты педагог. Ён, як цяпер кажуць, "фанат". Ну, хто як не фанат, у час летняга адпачынку будзе з раніцы да вечара распісваць партытуры, бо на лістапад запланаваны канцэрт! Або гадзіны рэдкага цяпер у выкладчыкаў вольнага часу аддаваць бібліятэцы ці фанатэцы, падбіраючы для ансамбля рэпертуар...

Рэпертуар жа ў калектыву надзвычай цікавы, і ў першую чаргу тым, што не складаецца, як гэта часта бывае, з "зацёртых" шлягераў. Тут,у ансамблі, перавагу аддаюць не знешняй кідкасці твора, а яго глыбіні, значнасці. Таму ўсе канцэртныя праграмы адметныя высокім музычным густам.

Вось і нядаўняя праграма аказалася для шматлікай публікі вельмі цікавай. Пераважала разнастайная вакальная музыка ў выкананні Івана Тамашэвіча. Пранікнёна прагучала класіка: "Ах ты, ночь ли, ноченька" М. Глінкі, "Разлюбила красна девица" А. Барадзіна, "Желание" А. Рубінштэйна. Яскрава, віртуозна — "Неапалітанская тарантэла" В. Мельё, "Зимняя дорога" Г. Свірыдава, "Перед испанкой благородной" У. Дзешавова. Сапраўдным артыстам паказаў сябе спявак у такіх творах, як "Песня пра блыху" Бетховена, "Як кароль ішоў на вайну" Ф. Кенемана, "Песня Нікіты" з аперэты "Халопка" М. Стрэльнікава. Глыбінёй і шчырасцю ўразілі творы "Скончылася шчасце" Н. Харыто, "Я мужык" М. Кочатава, "Ціха ўсё" Г. Талстой. Кожная песня не проста спявалася, яна разгортвалася перад публікай як мастацкая падзея. Бліскучы гумар, мяккая лірычнасць, сапраўдны чалавечы боль, — з усяго гэтага і складаліся спевы Івана Тамашэвіча.

Інструментальных твораў у праграме было няшмат, але яны ўразілі майстэрствам выканання. Гэта старадаўнія вальсы, тонкія і празрыстыя па гучанні, гэта найскладаная віртуозная п'еса А. Цыганкова на тэму цыганскай песні "Мар дзяндзя", гэта "смачная" маляўнічая "Фантазія на яўрэйскія тэмы" таленавітага нашага кампазітара В. Маліноўскага, які плённа працуе ў народна-інструментальнай музы-

## ВЫНІК З'ЯЎЛЕННЯ Ў ЭФІРЫ

Гран-пры відэа на фестывалі аддалі кіргізскай рэкламе. Сацыяльнай! Сацыяльная рэклама — з'ява, вельмі развітая ў Расіі і не дужа вядомая ў нас. Рэч у тым, што я, можна сказаць, ці не насампершы арганізаваў на БТ паказ двух сацыяльных ролікаў. Пасля мінулага маскоўскага фестывалю і знаёмства з Бубнавым мне выпала патрымаць у руках і перадаць у рукі кіраўніцтва БТ знакаміты бубнаўскі ролік пра тэатр (мае процьму прызоў, вядомасць і прызнанне тэатральных дзеячаў), другі — ад таварыства сляпых. Перш як прынесці іх на БТ, браў звесткі ад Аляксея Дударава пра беларускі тэатр, сустракаўся і з кіраўніцтвам Беларускага таварыства сляпых. Дамовіліся, што іх пакажуць. Кажуць, што паказалі. Але, здаецца, у такі ранні час, што я і не заспеў ніводнага ў эфіры. Рэклама ж, хоць і сацыяльная, усё-такі рэклама. Важны вынік яе з'яўлення. Паказ быў напярэдадні свята Новага, 1996 года, мы разлічвалі на нейкія ахвяраванні, на навагоднія падарункі, асабліва для таварыства сляпых... У вечаровы, самы выніковы час я бубнаўскіх ролікаў так і не пабачыў. Высветліў, што і кіраўнікі БТ таксама. Для чаго яны ішлі? Ролікі, універсальныя па сваёй значнасці! Дапамагаюць тым, хто вымагае дапамогі. Ствараюць вабны вобраз тэлебачання, — яно ж дае іх бясплатна... Я вёў гаворку пра тое, што на базе БТ можна і трэба было б рабіць, ствараць сацыяльную рэкламу. Яна, робленая ў Беларусі, знайшла б спажыўцоў і за межамі, уся рэч ва ўзроўні, на якім яна будзе зроблена. Перадаваў на БТ касету з ролікамі сацыяльнае рэкламы за 1993, 1994, 1995 гады,— пераможцаў Канскага фестывалю. Дадаў ролікі Грымава, Бубнава — каб сур'ёзна разважаць пра беларускую сацыяльную рэкламу...

Адзін з тэлевізійных кіраўнікоў, нарэшце, мне, наіўнаму, і патлумачыў, што на БТ ёсць тэхніка і людзі, супрацоўнікі. Менавіта яны і павінны на гэтай тэхніцы працаваць. Калі БТ запрашае мяне збоку, дык атрымліваецца, што людзі, якія працуюць, непатрэбны. Такая гаркавая праўда нашага тэлебачання. І няма сэнсу тлумачыць, што на ОРТ, на РТР, на НТВ і тэхнікі, і людзей, і нават якасці больш. А рэкламныя заставачкі робіць Грымаў, чалавек збоку. І што ролікі сацыяльнай рэкламы, робленыя ў Беларусі, маглі б некалькі патрэбных спраў рабіць адначасова. Калі б іх саміх рабілі не толькі тыя, каму палажана, але і тыя, хто таксама ўмее.

**P. S. па просьбе Аляксандра Шавялевіча**

На VI Маскоўскім фестывалі рэкламы, чыім спонсарам была кампанія "Філіп Морыс" (яна самая дапамагла "Студыі Крынь" выехаць у Маскву і акрэдытавацца), перамаглі наступныя беларусы: у намінацыі постэр-плакат перамог Уладзімір Цэслер, у раздзеле відэа-ролік Уладзіміра Янкоўскага "Дэпазітарый" трапіў у пяцёрку лепшых, у намінацыі "аўтамабілі і аўтасервіс" ролік беларускага агенцтва АТАР "Шыны" заняў другое месца.

**З Аляксандрам ШАВЯЛЕВІЧАМ сустракалася і гутарыла Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Аляксея МАЦЮША*

---

цы, гэта зняныя варыяцыі А. Шалава на тэму рускай народнай песні "Среди долины ровныя". Шчыра прызнаюся, што я слухала б і яшчэ — з такім высокім прафесіяналізмам выконваўся кожны твор.

І не ў час, напэўна, але падумалася: а гэта ж не прафесійныя артысты, якія за рэпетыцыйна-канцэртную працу атрымліваюць зарплату. Гэта ж выкладчыкі, якія, каб працягнуць сёння ад зарплаты да зарплаты, павінны працаваць у некалькіх месцах, а тое, што яны робяць у ансамблі, — робіцца ў вольны ад выкладання час. Колькі ж трэба самаадданасці, высокага служэння мастацтву, самаахвярнай любові да музыкі, каб дасягнуць такіх творчых вышыняў! І які гэта цудоўны прыклад для іхніх вучняў, студэнтаў! Не здзіўляе, што менавіта моладзь, якой шмат было ў той вечар у зале, амаль пасля кожнага нумара дружна скандзіравала "брава!".

Здаецца, вельмі некрытычныя атрымаліся ў мяне нататкі. Але не падымаецца рука, каб напісаць пра выпадкова ўзятую фальшывую ноту ці нейкую, напрыклад, тэмпавую недарэчнасць. Бо справа зусім не ў гэтым. Галоўнае, у той зімовы вечар жыццё маё, як і, думаю, усіх, хто пабываў на канцэрце, было ўпрыгожана жыватворным, сапраўдным мастацтвам. І я шчыра дзякую за гэта сваім калегам па прафесіі, таленавітым і самаадданым людзям.

**Валянціна ТРАМБІЦКАЯ**

---

ЗГАДКІ

# Партызанская муза

***Сёлета ў канцы студзеня яму споўнілася б восемдзесят, ды ён з прычыны цяжкай хваробы не дажыў і да шасцідзесяці гадоў. Заслужаны артыст нашай рэспублікі Рыгор Васільевіч Дзідэнка быў вядучым майстрам беларускай эстрады і карыстаўся папулярнасцю ў гледачоў як незаменны канферансье многіх канцэртных праграм.***

За чвэрць стагоддзя творчай дзейнасці ў яго выпрацаваўся свой асабісты стыль выканання, што адрозніваўся высокай сцэнічнай культурай, уменнем хутка наладжваць кантакт з публікай. Будучы артыстам размоўнага жанру, Рыгор Дзідэнка вобразна і вельмі шчыра чытаў на эстрадзе фельетоны, маналогі жартоўнага або сатырычнага зместу. А поруч з гэтым у стрыманай манеры, выразна выконваў музычныя куплеты, рэпрызы на розныя бытавыя тэмы, выкрываючы заганы і недахопы савецкага жыцця ў 50-60-я гады. І што асабліва цікава, эстрадны выканаўца ў асноўным сам рыхтаваў для сябе рэпертуар: складаў вясёлыя прыпеўкі, парадыйныя куплеты і сам жа падбіраў да іх адпаведную музыку.

Схільнасць да літаратурнай творчасці выявілася ў Р. Дзідэнкі зусім выпадкова, як цяпер я толькі даведаўся, яшчэ ў гады вайны, калі ён удзельнічаў у партызанскім руху Беларусі. Пра гэты, мала каму вядомы, перыяд жыцця таленавітага артыста мне і захацелася расказаць чытачам "ЛіМа".

Пасля заканчэння ў 1938 годзе Варонежскага тэатральнага інстытута Рыгора Дзідэнку адразу прызвалі ў армію. Службу ён праходзіў у Ансамблі песні і танца пагранічных войскаў НКУС БССР, дзе вёў канцэртныя праграмы і выступаў у якасці чытальніка.

Калі пачалася вайна, гэты ансамбль, што знаходзіўся ў той час на гастролях у Літве, апынуўся фактычна ў варожым акружэнні. Каб пазбегнуць фашысцкага палону, артысты вырашылі невялікімі групамі і па адным рухацца на ўсход. Аднак амаль нікому з іх так і не ўдалося перайсці лінію фронту і далучыцца да нашых адступаючых салдат.

Пераапрануўшыся на нейкім беларускім хутары ў старую сялянскую вопратку, Рыгор Дзідэнка з вялікімі цяжкасцямі, ледзь жывы дабраўся да Мінска. Тут жыла сям'я артыста — жонка Зіна і дачушка Ала, якая нарадзілася за два тыдні да пачатку вайны. Як расказала мне Зінаіда Пятроўна, яна тады не адразу змагла пазнаць у няголе-



ным знясіленым мужчыне свайго дарагога мужа. Абодва яна былі не ў сабе ад радасці і не маглі стрымаць слёз пасля такой нечаканай сустрэчы.

Неўзабаве адданыя сябры Дзідэнкі дапамаглі яму атрымаць часовы пашпарт і ўладкавацца на працу ў оперны тэатр. А ў падсвядомасці артыста ўжо спела неадступная думка: "Супраць фашыстаў трэба ўсімі сіламі змагацца. Выйсце адно — у лес, да партызанаў!"

З дапамогай надзейных таварышаў з мінскага падполля Дзідэнка аднойчы сустрэўся з сувязным атрада імя Кутузава 2-й Мінскай партызанскай брыгады. Дамовіліся, што артыст разам са сваёй сям'ёй з'явіцца ў Лошыцу, дзе ў дамоўленым месцы будзе чакаць сялянская падвода з вознікам, які, пачуўшы пэўны пароль, адвязе іх у вёску Цэсіна. А туды прыйдуць партызанскія разведчыкі і даставяць у атрад. Так, у лютым 1943 года артыст Рыгор Дзідэнка далучыўся да народных мсціўцаў, што дзейнічалі на тэрыторыі Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці.

Ён актыўна ўдзельнічаў у баявых аперацыях супраць гітлераўскіх карнікаў, у разгроме варожых гарнізонаў. Але шырокую вядомасць і аўтарытэт набыў сярод партызанаў перш за ўсё як кіраўнік мастацкага ансамбля атрада імя Кутузава, як аўтар і выканаўца актуальных для таго часу вершаў, прыпевак на партызанскую тэматыку.

Падчас маёй размовы з Зінаідай Пятроўнай я пачуў згадку пра такі цікавы выпадак.

— Аднойчы, калі партызаны вярнуліся ў лагер пасля цяжкіх баёў каля вёскі Амельна, на процілеглым беразе ракі Пціч, — расказвала Зінаіда Пятроўна, жывая сведка тых падзей, — Рыгор Васільевіч, каб разрадзіць абстаноўку, нечакана прапанаваў: "Хочаце, сябры, я прачытаю вам апавяданне "Галачка"? Дагэтуль мала хто ў атрадзе ведаў, што мой муж — артыст, і апавяданне "Галачка" было яго каронным нумарам у праграмах пагранічнага ансамбля. І на партызанаў яно зрабіла глыбокае ўражанне і зместам, і майстэрскім выкананнем чытальніка.

Напэўна, пасля таго выпадку кіраўніцтва атрада і вырашыла даручыць Дзідэнку стварэнне мастацкага ансамбля, здатнага ўзнімаць баявы настрой народных мсціўцаў, натхняць іх на барацьбу супраць акупантаў. Гэты невялікі канцэртны калектыў складаўся з артыстаў-паўпрафесіяналаў і аматараў. У яго ўвайшлі жаночы вакальны квінтэт, некалькі танцораў і інструментальнае трыо, якое акампанавала спявакам і самастойна выконвала папуры на тэмы масавых савецкіх песень. У трыо ігралі добра падрыхтаваныя музыканты — жонка кіраўніка ансамбля, балалаечніца З. Дзідэнка, якая скончыла перад вайной Мінскае музычнае вучылішча і два курсы кансерваторыі; скрыпач Я. Свірскі, які таксама меў музычную адукацыю, і прафесійны баяніст, чыё прозвішча, на жаль, не ўдалося высветліць.

Галоўная роля ў ансамблі належала Р. Дзідэнку, які быў не толькі майстрам мастацкага чытання, умелым канферансье, але і выдатна выконваў абавязкі пастаноўшчыка канцэртных праграм. Не маючы пастаяннай сувязі з пісьменніцкім асяроддзем, кіраўнік ансамбля змушаны быў сам складаць для ўласных выступленняў патрыятычныя і сатырычныя вершы, прыпеўкі, эстрадныя застаўкі-рэпрызы. У іх ён адгукаўся на розныя падзеі ваеннага часу і сваім шчырым словам заклікаў партызанаў да расплаты за зганьбаваны ворагам беларускі край. Ужо ў адным з першых вершаваных маналогаў "Гітлераўскі паход" паэт-аматар прадказваў немінучы правал фашысцкага нашэсця на нашу краіну. У глыбока драматычным вершы "Паланянка" Р. Дзідэнка адлюстраваў жахі акупацыі, масавы выган беларускай моладзі на прымусовыя работы ў Германію.

Натхнёны гераічнымі подзвігамі сваіх братоў па зброі, напісаў ён для ансамбля "Партызанскую песню". А дакладней, свой вершаваны тэкст паводле рэальных фактаў знаёмай баявой абстаноўкі, удала прыстасаваў да мелодыі вядомай рускай песні "Раскинулось море широко..." (Дарэчы, такі спосаб песнятворчасці быў даволі распаўсюджаны ў партызанскіх ансамблях і агітбрыгадах). Менавіта таму, што ў "Партызанскай песні" было шмат знаёмых інтанацый і вобразнага падабенства з музычнай першакрыніцай, яна вельмі хутка набыла папулярнасць сярод народных мсціўцаў.

А якія трапныя антыфашысцкія прыпеўкі, складзеныя кіраўніком ансамбля, спявалі партызаны! Вось, напрыклад, такія:

***Гітлер трызніць у трывозе,***
***Зразумеў фашысцкі спрут,***
***Нат гурган дзесь на дарозе***
***Каркне: "Фюрэру ка-а-пут!"***



Шчыра кажучы, сам Рыгор Дзідэнка ніколі не лічыў сябе літаратарам-прафесіяналам. Хаця многае са створанага ім у гады вайны, стала неад'емнай часткай беларускага партызанскага фальклору. "Паланянка", "Партызанская песня", "Спрэчка", "Слухай, Беларусь!", "Наташа", "На ўвесь размах" — гэтыя і некаторыя іншыя вершы, прыпеўкі былі народжаныя нібыта самім жыццём, пад глыбокім уздзеяннем суровага партызанскага побыту. Таму і прыцягвалі сучаснікаў надзённасцю тэматыкі, шчырасцю і непасрэднасцю паэтычнага слова.

Літаратурныя творы Р. Дзідэнкі не толькі пастаянна гучалі ў праграмах ягонага ансамбля. Яны яшчэ публікаваліся ў партызанскім рукапісным часопісе "Кутузавец", які выпускалі ў гэтым атрадзе каля двух гадоў. У склад рэдкалегіі ўваходзілі Р. Дзідэнка (адказны рэдактар), К. Панько, Р. Сігуцін, А. Агафоненка (мастак). Усяго выйшла трынаццаць нумароў "Кутузаўца", даволі прыстойна аформленых і ў асноўным надрукаваных на рэквізаванай пішучай машынцы. Але з іх захаваліся толькі дзевяць.

— Якім жа чынам удалося зберагчы такія каштоўныя партызанскія рэліквіі? — папытаўся я ў Зінаіды Пятроўны.

— Гэта цэлая гісторыя! — адказала яна. — Незадоўга да пачатку поўнага вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў усе атрады Другой Мінскай партызанскай брыгады апынуліся ў коле варожай блакады. Нашы партызаны ведалі, што мусяць быць жорсткія баі з гітлераўцамі. Таму мы з Рыгорам Васільевічам усе нумары часопіса, загарнуўшы ў моцнае радно, закапалі ва ўтульным сухім месцы на ўзлессі, паблізу вялікага разложыстага дуба. А як толькі прарвалі варожую бла-каду і партызаны злучыліся з часцямі Савецкай Арміі, часопісы з надзейнага "тайніка" былі адразу адпраўлены ў Мінск. Цяпер яны захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

Наведаўшы аднаго разу музей, я папрасіў яго супрацоўнікаў, каб прынеслі поўны "камплект" партызанскага часопіса "Кутузавец". І вось ён перада мной. З якой велізарнай цікавасцю я гартаў трохі сцёртыя пажоўклыя яго старонкі, на якіх былі змешчаны першыя літаратурныя творы артыста-партызана! (Некаторыя з іх увайшлі потым у калектыўны зборнік "Беларускі фальклор Вялікай Айчыннай вайны", выдадзены ў 1961 годзе).

А Зінаіда Пятроўна пазнаёміла мяне і з хатнім рукапісным архівам свайго мужа, дзе захоўваецца нямала цікавых эстрадных куплетаў, пародый, музычных рэпрыз, складзеных пераважна самім выканаўцам. Ён пастаянна ўключаў іх у свой рэпертуар, выступаючы ў пасляваенныя гады на розных фестывалях, дэкадах літаратуры і мастацтва і ў звычайных канцэртах. Рыгор Дзідэнка быў сапраўды творчым чалавекам, таленавітым артыстам, які пакінуў адметны след у летапісе партызанскага руху і гісторыі беларускага эстраднага мастацтва.

**Георгій ЗАГАРОДНІ**

*Архіўныя фота нагадваюць, якім быў Рыгор ДЗІДЭНКА ў жыцці і на сцэне.*

*Як пра нас*

# Пра тое-сёе і вакол

ЦІ Ж МОЖНА параўнаць тое, што ёсць цяпер, з тым, што было? У магазінах усяго поўна, і хтосьці штосьці там усё-ткі купляе. Так, не ўсім усё даступна, але нідзе няма такога жыцця, каб усё было даступна ўсім. Мне, дарэчы, самому вельмі многае не па кішэні. Паўз многія вітрыны я праходжу, ведаючы дакладна, што гэта не для мяне. Я ўвогуле на гэтых пераменах палацаў мураваных ці хоць бы драўляных не нажыў. У мяне няма ні дачы, ні "мерседэса", ні мабільнага тэлефона... Якія яшчэ ёсць прыкметы сучасных вялікіх поспехаў? Але я на гэта не скарджуся. Я мяркую, што чалавек, калі ён здаровы, сыты, апрануты, абуты і мае дах над галавой, можа лічыць сябе досыць шчаслівым. Вядома, ёсць і вельмі няшчасныя. Бежанцы. Ёсць іншыя неабароненыя пласты насельніцтва, напрыклад, пенсіянеры. А яны што, у мінулым былі моцна абаронены? Мой бацька па старасці гадоў атрымліваў песнію 60 рублёў, потым падумалі і дадалі яму яшчэ 15 за ваенную інваліднасць, а я ведаў старых людзей, якія атрымлівалі 40, 30 і нават 16 рублёў. Яны жылі лепш за цяперашніх пенсіянераў?

Так, вельмі многія церпяць, месяцамі не атрымліваюць зарплату, але ў іх цяпер ёсць магчымасць змагацца за свае правы, пратэставаць, баставаць, выходзіць на дэманстрацыі, а ў часы таннай кілбасы іх за такія формы пратэсту або расстрэльвалі масава (прыгадаем Новачаркаск 1962 года), або саджалі ў лагеры і ў псіхушкі па адным. Цяпер на выступленні прэсы няма ранейшай рэакцыі, але, магчыма, яна не заўсёды патрэбна і не кожная. У мінулым, было, з'явіцца адмоўная рэцэнзія ў газеце і тут жа "аргвывады": набор кнігі рассыплюць, спектакль забароняць, сцэнарый пакладуць на паліцу. А то яшчэ і пасадзяць. Кажуць: а ўсё-ткі было шмат добрага. Даруйце, не заўважыў. У мінулым была, канечне, маладосць і спадарожныя радасці, але ні ў якім выпадку не дзякуючы славутай савецкай уладзе; у якой, падкрэсліваю, **нічога добрага не было**. Гэта быў дурны, жорсткі, бяздарны і безнадзейны рэжым — вось ужо ані найменшых прычын для аптымізму. І ад таго, што гэты рэжым рухнуў, я не адчуваю нічога, акрамя радасці. Нават пры тым, што роля пісьменніка ў грамадстве цяпер ужо не тая.

Калі гаварыць пра ролю прэсы, то зваротная сувязь усё-такі ёсць. Усё-такі нашы крыкі, што нясуцца са старонак газет, часам даходзяць да вушэй начальства, і ўсё-такі бойня ў Чачні спынілася, зарплату часам, спахапіўшыся, выдаюць і шукаюць вінаватых. Грачова і Каржакова ад улады адхілілі.

Так, вядома, ёсць тое, пра што пісаў Мандэльштам: "Мы живем, под собою не чуя страны, наши речи за десять шагов не слышны". Але Мандэльштаму тады за гэтыя словы галаву адарвалі, і прэса з гэтай нагоды ў набат не біла.

Ну вядома, сацыяльнае расслаенне, крадзеж, карупцыя, вулічныя злачынствы, страшна хадзіць ноччу па горадзе.

А ў савецкі час уначы страшна было нават спаць ва ўласным ложку. Прыходзілі бандыты страшнейшыя за цяперашніх. У форменных ботах і з ордэрам на арышт. Кажуць, такое было толькі ў сталінскія часы. І таго было б дастаткова, каб праклясці гэты здохлы рэжым на векі вечныя. Але і ў паслясталінскія часы страх быў пачуццём, які пастаянна перажываў савецкі чалавек. Страшна было ганіць урад (акрамя як на кухні, шэптам), расказваць анекдоты, слухаць замежнае радыё, чытаць самвыдавецкія кніжкі (пісаць, вядома, таксама). Ці ж у мінулым любая газета, у тым ліку і "ЛГ", магла выступіць у абарону людзей, якіх пераследаваў рэжым? Магла яна крытыкаваць вышэйшых партыйных босаў ці хоць бы заўважыць, што кніга "Малая зямля" ўсё ж такі горшая за "Вайну і мір"?

Той рэжым заслугоўваў больш праклёнаў, чым гэты, таму што ён абяцаў нам свабоду, роўнасць, братэрства і райскае жыццё, а будаваў штосьці зусім непадобнае. Прычым будаваў гвалтоўна нашымі рукамі і на нашых касцях. І забараняў нам займацца чымсьці іншым. Цяперашні ж рэжым гаворыць: вось табе свабода і рабі, што хочаш. Пішы кнігі, будуй дамы, мый машыны, гандлюй. Купі танней, прадай даражэй, так шмат разоў — і разбагацееш. А калі тут не пашанцавала, вазьмі замежны пашпарт і паспрабуй сябе дзе-небудзь у іншым месцы.

МНЕ КАЖУЦЬ, мы імкнуліся да свадобы, да таго, каб краінай кіравалі сумленныя інтэлектуалы. А я скажу: і дарэмна імкнуліся. Свабода і сумленне — паняцці неабавязкова адпаведныя. Надта сумленныя і адукаваныя не кіруюць нідзе. Кожны чалавек, які дабіраецца да вяршыні ўлады, валодае па крайняй меры некалькімі якасцямі, не ўласцівымі проста добраму чалавеку. Сярод іх невымерныя ганарлівасць і ўладалюбства. Каб дабрацца да верху і не зваліцца ўніз, трэба быць хітрым і каварным, умець своечасова і крута расправіцца са сваімі палітычнымі праціўнікамі і падазрона ставіцца да сяброў. Сябры могуць аказацца яшчэ больш каварнымі. І яны такімі былі і ёсць ва ўсе часы. Брут аказаўся няверным Цэзару, Кацярына Другая забіла свайго мужа, Аляксандр Першы — бацьку, Хрушчоў выкрыў Сталіна, Брэжнеў звергнуў Хрушчова, Ельцын адцясніў Гарбачова, а сябра свайго Каржакова проста прагнаў з двара. У тых, хто стаіць на вяршыні ўлады, ёсць шмат падхалімаў, але мала сяброў. Я нават хацеў некалі апавяданне напісаць пад назвай "Адзінота — лёс прэзідэнтаў".

Я пра нашых правіцеляў магу быць вельмі невысокай думкі, але вартасць цяперашніх умоў у тым, што я гэтае сваё меркаванне маю магчымасць выказаць публічна.

Вось кажуць, інтэлігенцыя павінна стаць органам сумлення. Можа, і павінна, але гэты цяжар ёй не па сіле. Наша інтэлігенцыя (за выключэннем некаторых асоб) не толькі не процістаяла мінулым брыдотам, але часта сама ў іх удзельнічала. Напрыклад, у цкаванні сабе падобных (успомнім подпісы нашых славутых пісьменнікаў, акадэмікаў, артыстаў пад пісьмамі з патрабаваннем "расстраляць як шалёных сабак" або штонебудзь у гэтым духу). Для ўстанаўлення ў грамадстве здаровых адносін паміж людзьмі сумленне не самы надзейны інструмент (па сумленні людзі, бывае, занадта моцна гарачацца, а потым каюцца). Павінны быць законы, нармальныя, дзейсныя, заснаваныя на агульначалавечай маралі. І павінна быць павага да іх вярхоў і нізоў. Чаму нам таксама трэба вучыцца.

Савецкі рэжым рухнуў таму, што перарос сам сябе. За дзесяцігоддзі гэтага рэжыму ў свеце ўзніклі новыя формы чалавечага існавання, змяніліся адносіны паміж дзяржавамі і людзьмі, ускладніліся эканамічныя законы, развілася новая тэхналогія і некаторыя віды яе, жыццёва неабходныя, напрыклад, кароткахвалевыя радыё і камп'ютэры, аказаліся (я пра гэта пісаў гадоў дзесяць з гакам назад) проста несумяшчальнымі з укладам жыцця, пабудаваным на хлусні.

Калі ж гаварыць пра асабістыя заслугі, то трэба аддаць належнае і Гарбачову, і Ельцыну (абодва — асобы гістарычныя), але перш за ўсё трэба нізка пакланіцца (мы ж любім кланяцца) тым, каго называлі дысідэнтамі. Наша грамадства аказалася да гэтых людзей вельмі няўдзячным. Я чуў нямала слоў, што дысідэнты нічога не зрабілі. Гэта хлусня. Дысідэнты зрабілі вельмі шмат. Яны прыцягнулі ўвагу ўсяго свету да становішча ў Савецкім Саюзе і давялі мільёны савецкіх людзей (а не толькі Гаварухіна) да думкі, што так жыць нельга. Менавіта дзякуючы дысідэнтам савецкія кіраўнікі вымушаны былі хоць трохі лічыцца з сусветнай грамадскай думкай, заключаць Хельсінкскія пагадненні, ісці на ўступкі ў пытанні пра свабоду эміграцыі і выкарыстоўваць ГУЛАГ не на поўную магутнасць. Але калі б практычнай карысці ад дысідэнтаў не было ніякай, то і тады маральна здаровае грамадства павінна было быць удзячнае людзям, якія гаварылі праўду ў той час, калі за яе забівалі. А ў нас заслугі гэтых людзей не толькі забыты, але нават ад пакарання, вызначанага ім савецкай уладай, некаторыя з іх не вызвалены і цяпер. Пра лёс Георгія Владзімава я гаварыў шмат разоў — і дагэтуль як у пустэчу. Прывяду яшчэ адзін прыклад. Аляксандр Балонкін, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар, авіяканструктар (працаваў у ЦКБ А. Антонава), аўтар дзесяткаў буйных вынаходніцтваў. У сямідзесятыя гады за друкаванне самвыда трапіў у лагер, правёў там шмат гадоў, ужо ў гады перабудовы быў даведзены да адчаю і фактычна быў вымушаны эміграваць. Зразумела, што пры гэтым страціў кватэру. Цяпер хоча вярнуцца, просіць вярнуць жыллё. Яму спачатку паведамілі, што ён пастаўлены на чаргу (хоць ён заслужыў права не стаяць у чарзе па адабранае), а цяпер на ягоныя пісьмы і зусім не адказваюць. Гэта азначае, што пакаранне, прызначанае савецкай уладай Владзімаву, Балонкіну і іншым, да іх падобных, выконваецца і сёння і ператварылася ў пажыццёвае.

Цяпер сярод нашых кіраўнікоў, цэнтральных і мясцовых, шмат былых камуністаў і тых, хто застаўся імі ў душы. Вядома, яны да сумленных людзей, накшталт Балонкіна, асаблівых сімпатый адчуваць не могуць (могуць прытварацца). Але яны вымушаны лічыцца з новымі ўмовамі жыцця, вымушаны за свае месцы змагацца на выбарах, трываць больш ці менш крытыку і стаяць ля царквы са свечкай (што, прынамсі, маёй павагі да іх не дадае). Час заўважыць, што гэты ўзніклы новы парадак існуе не дзякуючы асобным людзям у Крамлі, а ўжо сам па сабе (што добра), і змяніць яго вельмі няпроста.

Я мяркую, "смелыя думкі" аб тым, што раней усё было добра, а цяпер кепска, не спантанна нараджаліся ў галовах многіх людзей, а падказваліся ім з розных куткоў аматарамі рыбнай лоўлі ў мутнай вадзе, у тым ліку і рыбакамі з Лубянкі. Гэта іх дзеячы, такія, як небезвядомы Філіп Бабкоў, паказваюць савецкае жыццё як нармальнае ці нават гераічнае, сваё ўласнае бруднае мінулае — як беззапаветнае служэнне Радзіме.

І цяпер, вядома, усялякай брыдоты хапае. Самавольства ўлад у цэнтры і на месцах, бюракратыя, карупцыя, хабарніцтва, раздзьмутыя штаты, блат, прывілеі, непавага законаў, абыякавае стаўленне да чалавечага жыцця. Вайна ў Чачні абурала мяне не толькі сама па сабе, але яшчэ і таму, што хавалі страты і не абнародавалі спісы загінуўшых.

Уся гэта брыдота ў нас не таму, што мы далёка пайшлі ад нашага мінулага, а таму, што ад яго не адышлі. Камунізм і яго злачынствы не былі асуджаны дастаткова, не былі асуджаны (хоць бы пасмяротна) злачынцы, так званы суд над камуністычнай партыяй у 1992 годзе аказаўся дробным фарсам. Пра пакаянне толькі пагаварылі і паглядзелі фільм Абуладзе. Людзі, якія яшчэ гадоў дзесяць таму злачынна хлусілі ў газетах, узводзілі паклёп на сумленных людзей, забаранялі кнігі, судзілі і саджалі тых, хто думаў іначай, лячылі здаровых у псіхушках, — іх жа ніхто ўсур'ёз не асудзіў ні крымінальным судом, ні маральным, яны, пакуль не дасягнулі пенсійнага ўзросту, засталіся, многія, на сваіх месцах ці пайшлі на павышэнне, а дасягнуўшы, атрымалі павышаныя ветэранскія пенсіі і як ганаровыя грамадзяне пішуць мемуары, выступаюць па тэлебачанні. Такое грамадства здаровым, вядома, назваць нельга, але ўсё-такі паступова гэтыя злачынцы былыя пойдуць у свет іншы (іх ахвяры іх апярэдзяць), дэмакратыя ў Расіі пашырыцца і памацнее, эканоміка наладзіцца, жыццё стане цярпімым, а большага ад яго чакаць не варта.

КАЛІ МЫ ГАВОРЫМ аб якасці сённяшняга жыцця, мы параўноўваем яго не толькі з нашым мінулым, але і з нейкім ідэалам, які (давайце паспрабуем быць рэалістамі) недасягальны.

Крадзеж, карупцыя, вулічная злачыннасць, сацыяльная няроўнасць. Усё гэта агідна, жахліва, але калі вас гэта хвалюе — змагайцеся. Пішыце ў газету, выходзьце на вуліцу, стварайце партыі, рухі, камітэты, балатуйцеся ў дэпутаты.

Чалавек піша ў газеце: у Расіі няма ніякай свабоды, і гэтымі словамі сам сябе адвяргае. Калі свабоды няма, тады пішуць: "Я другой такой страны не знаю, где так вольно дышит человек".

У свеце ёсць шмат зла, але прычынай яго з'яўляюцца не толькі ўласцівасці асобных рэжымаў, а парокі чалавечай пароды. Саўладаць з гэтымі парокамі цалкам нікому не па сіле: сёння, заўтра, праз дзесяць і праз сто гадоў людзі будуць устаўляць у дзверы замкі больш моцныя, пазбягаць цёмных завулкаў, і адны будуць намазваць чорную ікру на чырвоную, а для іншых і бульба ў шалупінні будзе за смакату.

Недзе я чытаў, што 300 сем'яў у свеце валодаюць паловай усіх сусветных багаццяў, а астатняе (зноў-такі вельмі няроўна) размеркавана паміж мільярдамі. Гэта жахлівая несправядлівасць застанецца з намі назаўсёды, а спроба яе пазбавіцца абернецца морам крыві і яшчэ горшай несправядлівасцю.

Калі прадстаўнікі якой-небудзь незямной цывілізацыі назіраюць за намі, яны, напэўна, думаюць, што наша планета населена ідыётамі. Таму што разумныя істоты не могуць, знаходзячыся ў беднасці, накіроўваць галоўныя намаганні, траціць незлічоныя сродкі і ўвесь свой інтэлект на вынаходніцтва, развіццё і вытворчасць пісталетаў, вінтовак, аўтаматаў, гармат, бомбаў, бамбардзіроўшчыкаў, ракет, газаў, промняў, біялагічнай зброі і ўсяго, што магчыма для знішчэння адзін аднаго.

Кажуць, што камуністычная ідэя добрая, а практыка была кепская. На самай справе ў тэорыі, якую немагчыма практычна ажыццявіць, нічога добрага няма. Камунізм і капіталізм адрозніваюцца адзін ад аднаго тым, што першы ставіць перад людзьмі неажыццявімую мэту, а другі дапускае, што ніякай агульнай мэты ў людзей няма, а калі ёсць, то ў кожнага чалавека свая. Камунізм спрабуе палепшыць прыроду чалавека, чым робіць яго яшчэ горшым, капіталізм прымае чалавека такім, які ён ёсць, дае яму магчымасць перш за ўсё задаволіць свае эгаістычныя патрэбы. Але капіталіст, узбагачаючыся, вымушаны спаборнічаць з іншымі капіталістамі, змагацца за якасць свайго тавару, зніжаць цэны і старацца, каб тавар ягоны быў даступны паўсюдна. Капіталіст з'яўляецца прыродным інтэрнацыяналістам і праціўнікам класавых бітваў. Калі ён пачне выбіраць сваіх кліентаў па прынцыпе нацыянальнай, расавай ці класавай блізкасці, ён прагарыць. Капіталіст можа быць не вельмі добрым (гэта яго асабістая справа), але ён абавязкова добразычлівы і ветлівы (ад грубага кліентура пойдзе). Капіталізм — гэта рынак, а рынак не можа існаваць без свабоды. І свабода немагчыма без рынку. Рынак не можа з'яўляцца ідэалам, але ён вызначае кошт усяму (таварам і людзям), не давярае рамантычнай рыторыцы і робіць адносіны паміж людзьмі больш дзелавымі і цвярозымі. Вядомы выраз можна дастасаваць да рынку ў перафразаваным выглядзе: "Не давярай і правярай". Рынак на слова не вырць нікому, і яму верыць не варта. На рынку дзейнічае шмат рознага роду махляроў, заўсёды гатовых нас (трымайцеся за кішэні) абдурыць. Але ім не трэба ад вас нічога, акрамя вашага кашалька. Нярынкавае грамадства, таталітарнае, кваліцца на ўсю вашу маёмасць, цела, душу і жыццё.

Шмат стагоддзяў існавала лжывае перакананне, што багатыя людзі кепскія, а бедныя — добрыя. Гэта не так. Жыццё ў галечы робіць чалавека злым, зайздросным і небяспечным для іншых.

У свабодным грамадстве людзі праяўляюць больш адказнасці за сваё ўласнае існаванне. Больш ініцыятывы. Мая дачка Оля расла ў сям'і, дзе ёй па магчымасці ні ў чым не адмаўлялі. Але вось, помню, ёй было гадоў трынаццаць... сядзіць, уткнуўшыся ў мясцовую газету. Я спытаў, што чытае. Яна сказала: аб'явы. Навошта? — Шукаю работу. — Навошта табе работа? — Мне патрэбны грошы. Я кажу, якія грошы? У цябе цяпер цяжкі час, у гімназіі хутка экзамены. Яна кажа: але мне патрэбны грошы. Ну добра, калі вельмі патрэбны, я табе дам. Яна ўзлавалася і кажа: а мне патрэбны мае грошы, а не твае. З таго часу яна заўсёды не толькі вучыцца, але недзе падрабляе сабе на цыгарэты (на жаль), на якія-небудзь модныя туфлі, на падарожжы. І такое імкненне да самастойнасці (хоць бы абмежаванай) характэрна для дзяцей на Захадзе. У нас гэта таксама цяпер ёсць, але пакуль носіць дзікунскі характар. Напрыклад, дзеці, якія ходзяць паміж машынамі, дыхаюць выхлапнымі газамі і гандлююць нечым парнаграфічным. Ці маленькія папрашайкі збіраюць грошы на гарэлку для сваіх бацькоў, якія страцілі чалавечае аблічча.

БУДУЧЫ БЕЗУМОЎНЫМ прыхільнікам свабоды і шануючы яе як вышэйшае дабро, я павінен прызнаць, што яна аказалася не лепшай умовай для развіцця літаратуры.

Пісьменнік у Расіі трыста гадоў (уключаючы савецкія семдзесят) пакутаваў ад несвабоды і дэспатызму. Але ва ўмовах несвабоды і дэспатызму менавіта літаратура іграла велізарную ролю як непадкупны носьбіт, вытворца, крыніца праўды і сумлення. Цяпер дэспатычны рэжым рухнуў, і здавалася, што ў новых умовах літаратура (ва ўсякім разе, у ранейшым яе выглядзе) не вельмі-то і патрэбна. Справа, зрэшты, не толькі ў свабодзе. Чалавек стаў занадта заняты штодзённымі справамі, ён шмат працуе, забаўляецца, увесь час некуды імчыць, у яго на сур'ёзныя кнігі часу не стае, а так — прачытаць што-небудзь у цягніку, у самалёце, на пляжы, выкінуць і забыць. Мы да такога стаўлення да літаратуры толькі (але сямімільнымі крокамі) прыходзім. Таму што

*(Працяг на стар. 15)*

*Друкуецца са скарачэннямі*

## Аддаў жыццё за радзіму

**Вядомы беларускі пісьменнік Рыгор Мурашка загінуў на Лагойшчыне ў красавіку 1944 года ў час прарыву партызанамі варожай блакады. А нарадзіўся Рыгор Данілавіч 95 гадоў назад у вёсцы Бязверхавічы цяперашняга Слуцкага раёна. Скончыў двухкласную валасную школу, вучыўся ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Удзельнічаў у барацьбе з польскімі акупантамі на Случчыне, служыў у Чырвонай Арміі. З 1921 года Р. Мурашка — на савецкай і партыйнай рабоце, быў адказным сакратаром часопіса "Бальшавік Беларусі", загадчыкам аддзела мастацкай літаратуры ў Дзяржаўным выдавецтве БССР. У час вайны — падпольшчык, партызан.**

**Дэбютаваў Р. Мурашка ў 1924 годзе на старонках газеты "Савецкая Беларусь". Выдаў кнігі апавяданняў "Стрэл начны ў лесе" (1924), "Прыгранічны манастыр" (1930), "Званкі" (1931), "Рузікі" (1932), "Мюдаўская ноч" (1934), аповесці "У іхнім доме" (1929), раман "Сын" (1929). Раман "Салаўі святога Палікара" асобнай кнігай пабачыў свет толькі ў 1967 годзе. У сааўтарстве з Н. Гарнічам выдаў кнігу "Бацька Бажэнка: запіскі Тарашчанца" (1935). Раман Р. Мурашкі "Таварышы", напісаны ў 1942 годзе, дзякуючы дачцэ пісьменніка А. Мурашцы прыйшоў да чытача ў 1993 годзе (апублікаваны ў 6—7 нумарах часопіса "Полымя").**

## Дзіцячы клуб "Эўрыка"



**Сотні хлопчыкаў і дзяўчынак наведваюць дзіцячы клуб "Эўрыка" пры ЖЭУ-21 Віцебска. Тут для іх створаны ўсе ўмовы, працуюць гурткі ручнога ткацтва і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, секцыя юных акварыумістаў і тэхнікаў, дзюдаістаў і танцораў і інш.**

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## Ганчарная кераміка Леаніда Панамарэнкі



**У Мінску, у рэспубліканскай галерэі мастацтва адкрылася персанальная выстава Леаніда Панамарэнкі. Мастак шырока вядомы сваёй ганчарнай керамікай, у якой шырока выкарыстоўвае сілуэты традыцыйнай народнай прыкладной керамікі, дасягаючы пры гэтым асаблівай вытанчанасці і прыгажосці форм. На выстаўцы аўтар прадставіў цудоўныя малюнкі, выкананыя алоўкам, акварэлі і скульптуры. Гэта яшчэ адзін штрых да творчага партрэта Леаніда Панамарэнкі.**

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

ЭСЭ

Эсфір Гурэвіч

# Апалогія маленства

Чалавецтва яшчэ тройчы адарве апошні лісток гадавых календароў перад тым, як ступіць у новае тысячагоддзе. Мы ўжо зараз адчуваем яго дыханне за спіной, і, як заўсёды на мяжы стагоддзяў, чалавек накіроўвае свой погляд у будучыню, ахутаную туманам невядомасці: што нясе будучае ўсім нам, кожнаму паасобку, каму суджана пераступіць гэты нябачны таямнічы парог, і чалавецтву наогул? Тое, што адбываецца сёння ў свеце, — бясконцыя войны і ваенныя канфлікты, небывалыя злачыннасць і жорсткасць, эканамічныя катаклізмы, стаўшае звычайным парушэннем элементарных норм маралі, — натуральна, не ўнушае аптымізму, асабліва чалавеку майго веку, які прайшоў самую вялікую і крывавую ў свеце вайну. Але вось тут, непадалёку ад мяне, самааддана і захоплена, з энергіяй, што б'е цераз край, нешта будуе і выбудоўвае мой малы слаўны ўнучак, духапад'ёмны чатырохгадовы чалавек, і душэўны настрой пакрысе ўзнімаецца. Штодня назіраючы за ім, за яго непасрэдным, арганічным быццём, ты праходзіш нібы па новым крузе жыцця і не перастаеш здзіўляцца: які невычэрпны і дзівосны гэты дзіцячы свет, які гэта космас, сусвет! І думка вядзе цябе ўжо ў іншы бок — ад маленства, ад вытокаў чалавека ў бясконцасць, да пытанняў усеагульных і універсальных, бо дзяцінства, сутнасна чалавечае стварэнне, вечнае глыбіннае, "ідэальнае", экзістэнцыяльную сутнасць быцця.

Толькі на схіле год пачынаеш разумець, чаму існуе такая магнітная сіла ўзаемнага прыцягнення паміж бабулямі, дзядулямі, з аднаго боку, і ўнукамі, з другога: яны ж — два полюсы адзінага ланцуга жыцця, якое, дзякуючы такой блізкасці, набывае высокі, шматзначны сэнс, завершанасць і перспектыву аднačасова. Думаецца, што калі б у свядомасці грамадства маленства асэнсоўвалася глыбей, як катэгорыя агульначалавечая, сутнасная, яна, свядомасць, была б менш агрэсіўнай і больш гуманістычнай.

Зварот да дзяцінства як светлай крыніцы жыцця на фоне ўсіх супярэчнасцей і дэфармацый грамадства патэнцыяльна нясе яму пэўнае ачышчэнне і духоўнае здароўе. Толькі дзеці — барометр сумлення грамадства — могуць падштурхнуць яго да пакаяння і самаўдасканалення. Невыпадковай у гэтай сувязі здаецца мне прыкметная ў сучасным выяўленчым мастацтве тэндэнцыя да наіўных, па-дзіцячы простых формаў — спроба вярнуцца да першаснасці і цэласнасці дзіцячага светаўспрымання. Дарэчы, і ў Маціса, і ў Пікаса знаўцы знаходзяць шмат ад дзіцячага мастакоўскага бачання. Калі б чалавецтва прыслухоўвалася да голасу маленства, яно б, відаць, не карысталася, паводле Васіля Віткі, "ні сілай, ні ўладай, ні тым болей зброяй на зло і шкоду людзям", і ў нас было б сёння больш падстаў спадзявацца, што XXI стагоддзе будзе лепшым.

Вось чаму ў навагоднія дні, тыдні, месяцы хочацца грамчэй гаварыць пра маленства, чароўнае святло якога налаўняе нашы сэрцы надзеяй.

●

Гімн маленству ўжо даўно прапеты. І, магчыма, з самай уражальнай і нават трагічнай сілай ён прагучаў у Януша Корчака, які ўласным жыццём аплаціў сваю любоў да дзяцей. Дзеля іх перадсмяротных спакою і веры ён з імі разам пакрочыў у газавую камеру, адмовіўшыся ад прапанаванага яму выратавання. Як любіць дзяцей, ён вучыць не толькі сваёй кнігай...

Па сутнасці, усіх вялікіх пісьменнікаў не пакідала думка аб лёсе маленства, бо ў ім яны бачылі завязь і корань чалавечага жыцця. Калі Леў Талстой у пакутлівых пошуках ісціны прыйшоў да сваіх высноў аб незвычайнай адоранасці, таленавітасці сялянскіх дзяцей, гэта было для яго радасным адкрыццём, нібы ён знайшоў цудоўную папараць-кветку: "Раптам, зусім нечакана адкрыўся мне той філасофскі камень, якога я марна шукаў два гады..." Ні больш, ні менш — філасофскі камень, пункт апоры, на якім трымаецца канцэпцыя чалавечага жыцця!

"Дзіцячае пытанне" мела і для Дастаеўскага (і ў першую чаргу ў "Братах Карамазавых") канцэптуальнае значэнне. Слязінка дзіцяці была для яго тым вышэйшым крытэрыем, якім вымяраўся маральны стан грамадства. Ён не прымаў гармоніі, купленай слязінкай хоць аднаго пакрыўджанага дзіцяці. Думка Чорнага аб незаменнасці кожнага асобнага чалавека, у тым ліку і маленькага, які толькі пачынае жыць, была па сутнасці творчым працягам мастацкіх ідэй Дастаеўскага. Сканцэнтраваная на дзецях у апавяданнях і раманах ваеннага часу, яна набывала асабліва трагічнае гучанне.

Да гонару беларускай літаратуры філасофскае асэнсаванне феномена дзяцінства аказалася па плячы і зусім маладому Максіму Багдановічу, які ўбачыў у дзецях увасабленне бясконцасці жыцця і яго прыгажосці: рысы мадонны, вышэйшую прыгажосць (г.зн. прыгажосць душы) — у басаногай сялянскай дзяўчынцы, васьмігадовай нянцы, што клапатліва выцірае нос двухгадоваму брацiку. Ды і Якуб Колас быў яшчэ маладым, калі пачаў апяваць "дзяцінства светлую часіну", каб дайсці "да канцоў і пачаткаў", Менавіта раздзелы пра маленства з'явіліся тым зернем, з якога выспела магутная эпічная задума "Новай зямлі".

Прызнанне самакаштоўнасці маленства як увасаблення добрых і светлых пачаткаў жыцця ў той ці іншай ступені характэрна для усіх пісьменнікаў, што адрасуюць сваю творчасць дзецям. Можна было б прывесці ўнушальны спіс годных імёнаў, але перш за ўсё нельга не назваць Янку Маўра і Васіля Вітку, Карнея Чукоўскага і Самуіла Маршака. Кнігі "Ад двух да пяці" і "Дзеці і мы", "Дыялогі з унучкамі" — плён вялікай творчай працы, умяшчаючь у сабе шырокі круг пытанняў, звязаных з філасофіяй, псіхалогіяй маленства, педагогікай, а мастацкі свет, створаны гэтымі пісьменнікамі, жыве па законах самога дзяцінства, яго бачання і светаўспрымання.

І тым не менш загадка дзіцячасці шмат у чым застаецца яшчэ неразгаданай, хоць для дзяцей і пра дзяцей напісаны горы кніг. Таму, відаць, хто задумваецца над ёю, можа ўставіць свае слова ў агульную размову, у якой у інтарэсах справы павінны зацікаўлена ўдзельнічаць прадстаўнікі розных галін навукі і практыкі — педагогікі, псіхалогіі, сацыялогіі, біялогіі, літаратуры, мастацтва.

●

Чым жа гэтак прываблівае дзіцячы свет? Чаму кожны чалавек з гадамі адчувае настальгію па маленстве, па сабе, малым, якім ён быў на пачатку жыцця? Што гэта за істота — дзіця, такое, здаецца, бездапаможнае, безабароннае, наіўнае і разам з тым маючае неадольную ўладу над бабулямі і дзядулямі, і не толькі над імі? Платонаў назаў яго ўладаром чалавецтва, "воссю свету"! Адказаць на гэтыя пытанні не так і проста.

Януш Корчак, чалавек, які ведаў дзяцей не па кнігах, а наглядаючы за імі штодзённа як педагог і доктар, заўважыў, што надзяваць на іх "мундзір душэўнай яснасці" значыць памыляцца. "Душа дзіцяці, — пісаў ён, — такая ж складаная, як і наша, поўная падобных супярэчнасцей, у тым жа трагічным змаганні: імкнуся і не магу, ведаю, што трэба, і не ўмею сябе прымусіць". І з гэтым нельга не пагадзіцца, калі ўявіць сабе, што дзіця, нарадзіўшыся, стаіць адзін на адзін са светам, загадкавым, таямнічым, ахутаным складанымі, незразумелымі ніцямі, сярод бязмежнага акіяна жыцця з яго хаосам і неразбярыхай. У гэтым хаосе яму трэба знайсці нейкія арыенціры, улавіць сувязь паміж з'явамі, "выстраіць" свой элементарны парадак, што ой як цяжка, асабліва пры мікраскапічна малым, мізэрным вопыце жыцця. Вось чаму мне рацыю Генрых Бёль, калі зазначыў: "Дзіця адзінокае, яно трагічнае". І з пункту погляду дарослага гэта, відаць, сапраўды так.

Само ж дзіця сваю тытанічную працу пазнання і спасціжэння свету, здабывання ісціны робіць лёгка і весела, гуляючы і скачучы на адной ножцы, захлёбваючыся ад "восторга бытия" (К. Чукоўскі), ад пауната пачуццяў. Вялікі няўтомны працаўнік, яно ўвесь час у руху, у гульні-дзеянні, у вясёлай словатворчасці. Кожную хвіліну яно выступае ў ролі Калумба, які адкрывае Амерыку, прычым адкрыцці адбываюцца самым паскораным чынам: за надзвычай кароткі час дзеці засвойваюць вопыт, назапашаны папярэднім развіццём чалавецтва. Нездарма Талстой пісаў, што за першыя пяць гадоў чалавек праходзіць шлях, роўны астатняму перыяду жыцця.

Дзіця шматаблічнае: яно можа быць папераменна бясклапотным гарэзнікам і маленькім філасафам, мудрацом, слабым і моцным, вясёлым і сумным, прастадушным і хітраватым, буйным фантазёрам, летуценнікам і цвярозым рэалістам, добрым і злым. Увогуле, як сказаў усё той жа Корчак, гэта "сто масак здольнага акцёра". Прычым, на кожнай ступеньцы росту маюцца свае асаблівасці, свая "структура свядомасці", паводле тэрміналогіі псіхолагаў.

Аднак пры ўсёй шматаблічнасці маленькага чалавека ці ёсць у ім нешта стрыжнявое, вызначальнае, характаралагічнае? Безумоўна ж ёсць. У першую чаргу — гэта

# "37 год быў неабходны..."

(Працяг. Пачатак на стар. 5)

Было прадугледжана таксама, што за правядзенне "аперацый" супрацоўнікі органаў маглі прадстаўляцца да ўзнагароджання баявымі ордэнамі і медалямі. У 1937 годзе былі пашыраны штаты саюзнага і рэспубліканскага НКУС, гарадскіх і раённых аддзелаў дзяржбяспекі. Спецыяльныя аддзелы былі створаны на ўсіх буйных прадпрыемствах, ва ўстановах, навучальных установах. Сістэма зацвярджэння кадраў прадугледжвала, што ўсе сакратары парторганаў ад ЦК да райкомаў партыі зацвярджаліся на гэтыя пасты толькі пасля ўзгаднення з органамі НКУС.

Прававая падрыхтоўка да нябачаных па маштабах рэпрэсій пачалася ў 1937 годзе. Народны камісар юстыцыі М.Крыленка і пракурор СССР А.Вышынскі 8 студзеня 1937 года падпісалі цыркуляр, які патрабаваў, што ўсе справы па контррэвалюцыйных злачынствах павінны разглядацца без удзелу абвінавачання і абароны. У сувязі з правядзеннем масавых "аперацый" у адносінах да былых кулакоў, членаў "антысавецкіх" партый, белагвардзейцаў, жандараў і чыноўнікаў царскай Расіі, бандытаў, рээмігрантаў, удзельнікаў "антысавецкіх" арганізацый, царкоўнікаў і сектантаў, у адпаведнасці з загадам НКУС СССР ад 30 ліпеня 1937 года быў зацверджаны персанальны склад абласных "троек" у складзе: старшыня — начальнік абласнога ўпраўлення НКУС, члены: сакратар абласнога камітэта КП(б)Б і абласны пракурор.

Для далейшай актывізацыі дзейнасці судовых і па-за судовых органаў 14 верасня 1937 года ЦВК СССР прыняў пастанову "Аб унясенні ў дзейныя крымінальна-працэсуальныя кодэксы саюзных рэспублік змен па разглядзе спраў аб контррэвалюцыйным шкодніцтве і дыверсіях". Згодна з гэтай пастановай, касацыйнае абскарджанне па справах аб злачынствах, прадугледжаных арт. 58-7 КК РСФСР і арт. 69-5 КК БССР (шкодніцтва) і арт. 58-9 КК РСФСР і арт. 71 КК БССР (дыверсія), а прысуды да вышэйшай меры пакарання (расстрэл) прыводзіліся ў выкананне неадкладна.

Асабліва актывізавалася дзейнасць НКУС БССР і абласных "троек" з ліпеня 1937 года, калі, згодна ўказанню "зверху", на месцах былі складзены спісы на ўвесь "контррэвалюцыйны" элемент. Услед за гэтым на Беларусі і ў іншых рэгіёнах краіны пачаліся масавыя аперацыі па ажыццяўленні арыштаў і фальсіфікацыі "контррэвалюцыйных спраў". Сэнс гэтых акцый зводзіўся да "стварэння" так званых "усесаюзных контррэвалюцыйных арганізацый": контррэвалюцыйнай шпіёнска-дыверсійнай, антысавецкай паўстанцка-тэрарыстычнай, эсэраўскай шпіёнскай, контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай, фашысцкай, Польскай арганізацыі вайсковай і многіх іншых.

Дык верылі ўсё ж сучаснікі ў існаванне соцень тысяч ворагаў ці, прыціснутыя тэрорам, рабілі выгляд, што вераць?

Шараговаму савецкаму грамадзяніну ў канцы 30-х гадоў было крайне няпроста разабрацца ў абстаноўцы. Не надта высокі ўзровень культуры, нязначны палітычны вопыт, беднасць інфармацыі — усе гэтыя акалічнасці рабілі людзей безабароннымі перад абсалютна пануючай афіцыйнай прапагандай.

Нярэдка недасведчаныя людзі спісвалі на ворагаў — што, прынамсі, часам робім сёння і мы — шматлікія цяжкасці, якія існавалі ў краіне.

Многія з кіраўнікоў, якія загінулі ў 1937—1938 гг., на самай справе былі "героямі" раскулачвання і вывачвання хлеба з паміраючых ад голаду вёсак, пераследавалі іншадумцаў, жалезнай рукой распраўляліся з най-

*Уладзімір КЛІМОВІЧ*

# Нясвіжскія сны

Аб мокры шчарбаты асфальт разбіваюцца бясконцыя кроплі дажджу, амярцвелыя лісты злятаюць з дрэў долу і мяккім покрывам усцілаюць зямлю, вільготны вецер з возера, нібыта падаганы спуджанымі крыкамі качак, свішча проста ў твар...

Нясвіжская восень стомлена і сумна зазірае мне ў вочы.

●

Тры разы наважваўся прыехаць адпачыць у санаторый “Нясвіжскі” і тры разы не мог сябе перасіліць. Баяўся, што ўбачу здзек з палаца, які стаў святыняй для многіх пакаленняў.

На чацвёрты раз рашыўся. І толькі тут падумалася, што, магчыма, у нашыя часы палац збярогся дзякуючы людзям, якія жывуць у ім.

●

Нясвіжскі Замак — сімвал былой велічы майго народа. Гэтая веліч бачыцца нават праз пыл сівых стагоддзяў, праз рэха жорсткіх, даўніх баёў.

Спрабую ўявіць сабе Замак, быццам чалавека. Уяўленне малюе маршчыністы твар шляхціца з падцятымі вуснамі і вострым нескаронным позіркам чорных вачэй.

●

У Замка ёсць душа. Я гэта адчуваю.

●

Зусім недарэчна глядзіцца скульптура салдата і Вечны агонь каля сцен старадаўняга замка.

Лепш, напэўна, каб гэтая скульптура стаяла ў цэнтры горада.

●

З насыпнога вала прыемна глядзець на возера, на парк, на далёкі роў унізе. Ёсць адчуванне непрыступнасці.

●

Вечарам асабліва прыгожы ўваход у Замак. Вытанчаны мост вядзе да шыкоўных варотаў. Мяккае святло ліхтароў падае на сцены, на асфальт, на нізкія слупы моста і стварае аўру цнатлівасці і таямніцы.

Трохі псуюць уражанне ад гэтай прыгажосці шыльды пра тое, што тут некалі адбыўся нейкі з'езд бальшавікоў.

●

На адзіную ацалелую фрэску, якой размалявана столь над лесвіцай, калі падымацца на трэці паверх, можна глядзець падоўгу. Лёгшы на канапу, што стаіць на шырокай лесвічнай пляцоўцы, і заклаўшы пад галаву рукі. У гэтай фрэсцы ўвесь час знаходзіў для сябе штосьці новае.

Цэлая філасофія адной фрэскі. А можа... можа, гэта таму, што яна — апошняя?

●

У пакоі, дзе жыву, мне, чамусьці, не спіцца. Толькі заплюшчу вочы — мроіцца нейкія страшныя відовішчы, чуецца чыйсьці шэпт. У трывожным сне адчуваю нечыя палахлівыя дотыкі... Мой сябар з'ехаў раней, я перабраўся на ягонае месца і адразу заснуў спакойным сном.

Пасля, агледзеўшы пакой, я зразумеў, што тут калісьці была вялікая зала. Яе перагарадзілі між вокнамі і атрымаліся два пакоі. Мой ложак стаяў каля перагародкі, я нават чуў, як на тым баку перагаворваліся суседзі. Значыцца, я спаў пасярод залы.

Можа, ноччу, не зважаючы на “новую планіроўку”, па сваіх вялікіх залах ходзяць і ходзяць цені тых, хто калісьці тут жыў.

●

Зайздрошчу Уладзіславу Сыракомлю. Папрацаваць у пачатку мінулага стагоддзя аж чатыры гады ў Замку над літаратурнымі творамі — вялікая раскоша для творцы, пра якую сёння можна толькі марыць.

●

Дзеці, якіх сюды амаль кожны дзень прывозяць на экскурсіі, шумлівым натоўпам абыходзяць Замак з боку парку. Некалькі чалавек па вузкай сцяжынцы падымаюцца на стромы вал. Аступаюцца, аб'язджаюць і зноў лезуць наверх. Там — іх сябрукі, якія ўзабраліся раней, крычаць і галёкаюць, клічуць да сябе.

●

Калі адчыняю цяжкія каваныя дзверы, самыя першыя, перад уваходам у Замак, — заўсёды спадзяюся, што з таго боку мяне сустрэнуць уважлівыя слугі, прымуць вопратку і ветліва запросяць прайсці ў апачывальню.

●

Дубовая зала, бадай, адзіная, якая больш-менш захавалася з радзівілаўскіх часін. Сцены і столь залы, абабітыя мораным дубам, уражваюць сваёй строгасцю, змрочнасцю цёмных таноў. А вось вялікі, проста аграмадны, камін размаляваны светлымі фарбамі. Ён адразу прыцягвае ўвагу сваёй прыгажосцю і непадробнай шчырасцю: пакладзі дровы, распалі — і грэйся.

Дубовую залу цяпер скарыстоўваюць, як сталоўку. Калі дзеці, паснедаўшы, пачынаюць гуляць у хованкі, бегаць са звонкімі крыкамі між сталоў і шукаць, куды лепш схавацца, то абавязкова хтосьці з іх падбягае да каміна. Дзеці заходзяць у яго, быццам у пакой, прыціскаюцца спінамі да бліскучых ад фарбы сценак, задзіраюць галовы і моўчкі глядзяць уверх, забыўшыся пра гульні.

Мне карціць даведацца, замураваны ці не комін? Але падысці да дзяцей і запытацца пра гэта — саромеюся.

●

Такое ўражанне, што час трохі прыпаволіў сваю хаду ў Нясвіжы. На цэнтральных вуліцах шмат прыватных дамоў. На адным — шыльда: “Тэрміновы рамонт абутку”. А ў верандзе сядзіць увішны дзядзька, які тут жа можа падбіць вам абцас ці падклеіць падэшву.

●

Нясвіжцы кажуць: “У Слуцку ўсё па-людску, у Мінску ўсё па-свінску, а ў Нясвіжы — быццам у Парыжы”.

Адразу ўспамінаюцца лепшыя часіны заможнага рода Радзівілаў.

●

Сымон Будны з кнігай у руцэ падаецца на шмат больш значным за Леніна з пустой працягнутай рукой.

●

Трагічны выпадак ускалыхнуў Нясвіж.

Двое хлапцоў, вучняў старэйшых класаў, наслухаўшыся пра вялікія скарбы, што схаваны дзесьці побач з Замкам, вырашылі шукаць “клад”. Позна ўвечары, з рыдлёўкамі і кіркамі ў руках, з вяроўкамі на паясах, яны схіліліся над шырокай нарой. Гэта быў нядаўна выкапаны даследчыкамі калодзеж, які злучаўся з былымі падземнымі хадамі. Каб асвятліць дарогу, хлопцы пачалі кідаць у чарнату калодзежнай зяпы падпаленыя кавалкі пенапласту...

Развязка аказалася да болю жахлівай, праз дзень шукальнікаў клада знайшлі на дне калодзежа нежывымі. Пенапласт у падзямеллі не гарэў,а толькі курэў едкім дымам. Ад гэтага дыму хлопцы і задыхнуліся.

Няўжо гэта праўда, што нават праз стагоддзі Радзівілы берагуць свае багацці?..

●

Нясвіжская царква зусім маленькая. На Дзяды я зайшоў, каб ушанаваць памяць блізкіх. Народу — не прабіцца. Ледзь-ледзь праціснуўся да бабулькі, што прадавала свечкі. Купіў і са скрухай пазіраю на спіны людзей. А бабулька кажа: “Вы аддайце свечкі гэтаму чалавеку. Ён за Царскімі Варотамі паставіць”. Мужчына ўзяў мае свечкі.

Праз некалькі гадзін я зноў прыйшоў у царкву. Яна была амаль пустая. Толькі дзве жанчыны прыбіралі падлогу. Купіў яшчэ свечак і паставіў перад абразамі. Увесь гэты час мне было неяк не па сабе. Усё ж, напэўна, па сваіх бацьках і дзядах мы павінны ставіць свечкі самі.

●

Побач з касцёлам заўсёды праходжу з заміраннем сэрца. Тут, у цёмных сутарэннях, пад цяжарам наканаванасці ляжаць былыя гаспадары гэтай зямлі.

З-пад важкіх векаў грабніц я чую іх стогны. Радзівілам трывожна, Радзівілам хочацца ажыць у гэтым часе, выбрацца на святло і абысці свае ўладанні.

Можа, каб супакоіцца?

●

Наведаў камерцыйную краму “Шанхай”. Зірнуў на стракаты прылавак і пайшоў уздоўж вітрыны, выбіраючы, што купіць, але раптам спатыкнуўся аб штосьці грувасткае, пахіснуўся і, каб не ўпасці на падлогу, інстынктыўна выставіў перад сабой рукі... Калі апамятаўся і агледзеўся, аказалася, што я сяджу на труне. Яна была збіта са свежых, старанна пагабляваных дошак і таксама прадавалася, толькі з гэтага боку вітрыны. Я хутчэй падняўся і з цяжкасцю адарваў далонь ад ліпучага смалістага дрэва, усё роўна, як труна не хацела са мной развітвацца.

●

У пярэдняй вежы па вечарах хтосьці запальвае святло. У каго ні спытаю — немагчыма даведацца, хто. Можа, вартаўнік? Не ведаю... У такія часіны я называю гэтую вежу так: “Маяк Вяртання”.

Вяртання ў мінуўшчыну, у сваю гісторыю, да самога сябе. І, вядома, — Маяк Вяртання для закаханых адпачываючых, якія запазніліся, прагульваючыся па парку.

●

У Старым парку, недалёка ад возера, ёсць дрэва, якое расце гарызантальна. Магчыма, калісьці яго павалiла бура. Ніжнія галіны глыбока ўпіліся ў зямлю і ператварыліся ў карані.

На гэтым дрэве добра сядзець, быццам на кані, і глядзець, як узлятаюць і садзяцца на ваду качкі.

●

Па Нясвіжскім Замку блукаюць два прывіды. Адзін, прывід Белай Дамы, светлы і добры; другі, прывід Чорнай Дамы, цёмны і злы. Вядома, можна саркастычна ўсміхнуцца: гэта адгалоскі даўняй легенды. Але ўночы міжволі пачнеш прыслухоўвацца да кожнага шоргату за акном і, схлусіўшы самому сабе, быццам холадна ў пакоі, схаваешся з галавой пад коўдру.

●

Пад Замкам шмат хадоў. Кажуць, яны размешчаны ў некалькі паверхаў, і ніжэй за другі даследчыкі пакуль не апускаліся. Я дамовіўся з адным дзядзькам, які працуе ў палацы, што ён правядзе мяне хоць трошкі па першым паверсе падземных лёхаў, але раптоўна дзядзька захварэў.

Хочацца спадзявацца, што наша дамова засталася непарушнай і я калі-небудзь з хваляваннем дакрануся да вільготных сутарэнняў Нясвіжа.

●

З боку Японскага парку Нясвіжскі Замак падаецца нейкім напружаным і адначасова заспакоеным. Ён, быццам звер, які салодка дрэмле на сонцы, забыўшыся пра ўсё на свеце.

Але варта падысці бліжэй, зрабіць адзін пагрозлівы рух — звер тут жа выпусціць кіпці і ашчэрыць клыкі.

●

Другая вежа вастрынёй свайго шпіля няўрымсліва цягнецца ўверх, быццам хоча закрануць нізкія хмары. На вежы калісьці вісеў звон і стаяў чалавек, які меў добры зрок.

Аднойчы мне вельмі захацелася падняцца на гэтую вежу, каб зірнуць уніз. Я адшукаў уваход, узняўся на некалькі прыступак... Перада мною паўсталі дзверы з іржавым замком.

Значыць, сёння няма патрэбы, каб хтосьці падымаўся на вежу і пільна аглядаў наваколле.

●

Цэлы дзень ідзе дробны колкі дождж. Крочу між дрэў па роўнай сцяжынцы і гляджу, як у восеньскай смузе вымалёўваюцца прывідныя абрысы Нясвіжскага Замка.

Я баюся, што гэты міраж хутка знікне і мне давядзецца да бясконца брысці ў непагадзь па мокрай сіратлівай алеі.

●

У Зорнай зале — партрэт Суворава, военачальніка, які жорстка змагаўся супраць Радзівілаў.

Хтосьці павесіў гэтую карціну тут, як быццам наўмысна, каб пакпіць з нашчадкаў, што не ведаюць нават горкіх старонак гісторыі нашай дзяржавы.

●

Па вершалінах распранутых дрэў стомлена пырхаюць вароны і сваім пранізліва-хрыпатым крыкам клічуць першыя маразы.

●

У Старым парку з аднаго кораня растуць два дрэвы. Раней, калі дрэвы былі маладымі і разам цягнуліся да сонца, іх камлі зрасліся. Пасля дрэвы пачалі хіліцца ў розныя бакі. Між імі з'явілася глыбокая трэшчына. Але работнікі парку змайстравалі шырокі жалезны абруч, абхапілі ім дрэвы і сілай прыцягнулі адно да другога. Цяпер трэшчына не большае і дрэвы растуць, як і раней, у маладосці...

Вось толькі абруч напяўся, быццам струна, і пачаў уядацца ў кару. Работнікі баяцца, што не вытрымаюць жалезныя заклёпкі, абруч стрэльне па стыку і дрэвы ад вялікага жадання расці так, як ім хочацца, ірвануцца кожнае ў свой бок, і лягуць на зямлю, з трэскам разарваўшы аснову свайго жыцця на дзве паловы.

Гэтую з'яву мне так і хочацца назваць прымусовым шлюбам дзеля выжывання.

●

Зайшоў на кухню папрасіць солі і знямеў: у куце, пры самых дзвярах, на швабры, перавернутай перакладзінай уверх, ляжаў вялікі жоўты гарбуз. Хтосьці вострым тонкім нажом выразаў на гарбузе “вочы” і “рот”; на перакладзіне матлялася доўгая ануча... Аказваецца, гэты былі жарты маладога кухара.

Я так і не запытаў, ці ведаў вясёлы рагатун, што калісьці былыя гаспадары гэтай зямлі таго, хто спакушаўся скрасці знакамітую каштоўнасць Нясвіжскага Замка — Дванаццаць Апосталаў — скальпіравалі ўжывую і садзілі на кол.

●

Дождж амаль не перастае. Волкія хмары сыплюць і сыплюць дробную імжу. Думаецца, што позняя восень якраз тая пара, якой адпавядае сённяшні стан Нясвіжскага Замка.

*Лістапад 1996 г., Нясвіж*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*
**Міхась ЗАМСКІ,**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Юрась СВІРКА,**
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*



**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-660





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4678
Нумар падпісаны 13.2.1997 г.
Заказ 808/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12